# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 10 (1149) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 5 САКАВІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.


**1977** год у дзейнасці БГКТ быў праверкай пасля рэарганізацыі арганізацыйнай структуры на двухступенную: Галоўнае праўленне і непасрэдна гурток БГКТ. Спрашчэнне структуры арганізацыі спрыяла бліжэйшым сувязям паміж гурткамі і Галоўным праўленнем. Вялікія абавязкі мелі прыдзеленыя на кожны раён інспектары ГП.

Заўважаецца вялікая ратацыя членаў БГКТ, асабліва ў тых раёнах ваяводства, дзе наступіла значная міграцыя людзей з вёскі ў горад. Перасталі быць членамі 252 асобы, аднак, калі ўзяць пад увагу 130 новапрынятых членаў, стан арганізацыі зменшыўся на 122 асобы.

Паводле асабовага складу на дзень 31 снежня 1977 года БГКТ налічвае 6003 члены, якія дзейнічаюць ў 189 гуртках. У гэтай суме жанчыны складаюць больш чым 44% цэласці і налічваюць 2669 асоб.

Сацыяльны састаў членаў БГКТ пад канец 1977 года быў наступны:
рабочыя — 1.152 (19,2 %)
сяляне — 2.677 (44,6%)
інтэлігенцыя — 1,557 (25, 9%)
студэнты і вучні сярэдніх школ — 617 (10%).

Члены таварыства паводле ўзросту:
ад 18 да 30 гадоў — 4.464 (74,35%);
ад 30 да 40 год — 881 (14,65%);
і звыш 40 год — 658 (10,96%).

Як бачым, 74% членаў (на 4% больш, чым у мінулым годзе) гэта моладзь.

З боку адукацыі:
пачатковую школу закончыла 2.329 асоб

## ДЗЕЙНАСЦЬ БГКТ ЗА 1977 ГОД

(38,8%); прафесіянальныя школы — 1.119 членаў (18,64%); сярэднюю адукацыю атрымала 1.987 чалавек (33,1%) і вышэйшую — 568 (9,46%).

1.365 членаў БГКТ (22,73%) з'яўляюцца членамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі; 359 (5,98%) — гэта члены ЗСЛ і 20 — члены СД. 2.145 асоб з'яўляюцца членамі Саюза сацыялістычнай польскай моладзі.

Большасць нашых членаў — гэта людзі грамадска і палітычна заангажаваныя, людзі, якія карыстаюцца аўтарытэтам і даверам свайго асяроддзя; 3 члены БГКТ з'яўляюцца дэпутатамі ваяводскіх радаў нарадовых і 144 члены — дэпутаты гмінных радаў.

Не найлепш было ў 1977 годзе з аплочваннем членскіх складчын. Нізкі працэнт (47,8) аплочаных складчын не найлепш сведчыць аб дысцыпліне членаў гурткоў.

На працягу мінулага года ГП БГКТ правяло два пленарныя пасяджэнні. Першае — прысвечана было праблеме развіцця самадзейнага мастацкага руху, а другое 60-ай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Адбылося ў 1977 годзе 7 пасяджэнняў Прэзідыума ГП БГКТ, на якіх рашаліся розныя праблемы.

Вельмі плённа на працягу мінулага года працавалі камісія асветы і культуры, навуковы гурток, лектарскі гурток, а таксама літаб'яднанне „Белавежа".

(Працяг на стар. 2)



**Беларускія жанчыны.** Ларыса Александроўская, оперная спявачка, народная артыстка СССР.

## З ДУМКАЙ АБ ЛЕПШЫМ ЖЫЦЦІ

Так можна, бадай найбольш агульна вызначыць супольны назоўнік усяму гэтаму, аб чым гаварылі, што вырашалі і аб чым турбаваліся ўдзельнікі XVI ваяводскай справаздачна-выбарнай канферэнцыі ПАРП у Беластоку. Партыйная арганізацыя Беласточчыны, якая цяпер налічвае звыш 40 тысяч членаў, добрасумленна і шчыра разлічвалася перад усім грамадствам са сваёй адказнай кіраўнічай дзейнасці ў 1976 і 1977 гадах, а таксама вызначыла заданні на наступнае двухгоддзе. „Наша ваяводства, — адзначаецца ў справаздачы Ваяводскага камітэта, — мае ўжо вялікі патэнцыял вытворчых сіл і дасягнула адносна высокага ўзроўню заможнасці і культуры грамадства".

Угэтай галіне кожны з нас мае ўласны вопыт і ўласныя меркаванні. Я, для прыкладу, часта наведваю беластоцкія вёскі, бываю ў тутэйшых гарадах і мястэчках. За кожным разам здзіўляе мяне веліч перамен, якія ўсюды там здзяйсняюцца амаль кожны дзень. Вось Сухавольцы — першая на Беласточчыне вялікая вёска, амаль поўнасцю мураваная — у мінулым годзе разам з суседнімі вёскамі пабудавала сабе **водаправод.** Наведваю Чыжы, Дубіны, Новаберазова, Махнатае, Калодна... Усюды людзі будуюцца, размаляванымі платамі гародзяць свае панадворкі. Аж прыемна палюбавацца. Але робяць яны гэта не толькі дзеля прыгажосці. Палітыка партыі і практычная дзейнасць нашага ўрада пераконваюць нашых сялян, што варта добра працаваць, што варта паклапаціцца пра сваю маёмасць. У невялікай вёсцы Вычулкі пад самай граніцай, дзе і цяпер сяляне жывуць не надта ж багата, нядаўна гутарыў я з адным гаспадаром, у якога на панадворку яшчэ пахла свежай вапнай ад новапабудаваных вялікіх гаспадарчых будынкаў. „Цяпер, казаў ён, не аплоціцца трымаць двое свіней і адну карову. Трэба выбраць спецыялізацыю". Гэтае перакананне ўсё глыбей закараняецца ў нашых сялян. Ужо цяпер ёсць у Беластоцкім ваяводстве 1900 спецыялістычных гаспадарак і амаль 320 прадукцыйных суполак.

Тут прыпамінаецца мне адна сустрэча з рэпарцёрскіх вандровак па Беласточчыне. Адна 80-гадовая бабуля з вёскі Клюковічы гаварыла мне, уздыхаючы: „То ж вы цяпер раю на зямлі дачакаліся. Летам на полі машыны за вас робяць, а зімой, жывіне падаўшы, у хаце сядзіце і ў тэлевізар узіраецеся. А я ў школу не магла хадзіць, бо маці кудзелю прасці прымушала. Так і непісьменнай зас-

(Працяг на стар. 4)

Новыя вершы

Эдвард Голда

### УСЕ ЖАНЧЫНЫ

*Усе жанчыны,*
*якія плакалі ад радасці*
*ў дзень нашага нараджэння,*
*усе жанчыны,*
*якія калыхалі нас*
*ласкаю вачэй*
*і дотыкам пальцаў*
*адкрывалі*
*нашы сэрцы,*
*усе жанчыны,*
*якія паглыналі нас*
*сваім дыханнем*
*у соль і кісласць поту,*
*усе жанчыны,*
*якія ратавалі нас*
*у чуллівых тонях сваіх,*
*усе жанчыны,*
*з грудзей якіх пілі мы малако*
*і вечную ненасытнасць,*
*усе жанчыны,*
*да крыві якіх прагнем*
*вяртацца безупынна,*
*усе жанчыны,*
*з якіх мы нараджаемся*
*і штодня нараджаем нанава,*
*якія запаўняюць нам*
*пустату света*
*і аддаюць сябе*
*ў натоўпе неабдымным*
*сваіх цел і позіркаў*
*на зблытаных сцежках сну,*
*бярэзіны, лугоў, жыта, кветак,*
*імглы тканін, пасцелі*
*і люстэрка,*
*усе жанчыны*
*ў табе адной*
*і адзінай,*
*а ты ад мяне ўхіляешся*
*усмешкай лёгкаю*
*і, хоць ты мая,*
*то не мая*
*ніколі.*

З польскай пераклаў
**Ян Чыквін**

*Іх дбайная штодзённая праца і вытанчаны густ узбагачаюць і здобяць наша жыццё. Этнограф Барбара Кестэніс-Студзінская і ткачыха Галіна Жмуйдзін — абедзве з Беластоцкага каапэратыва народных вырабаў — абмяркоўваюць кампазіцыю аднаго са славутых дзвюхасноваавых дыванoў, што ткуць майстрыхі гэтага прадпрыемства.* Фота М. Гайдука.



# ШТО НОВАГА?

## Вежа перастала падаць?

Цікавае паведамленне паступіла з італьянскага горада Піза: у 1977 годзе вядомая „падаючая“ вежа не нахілілася ні на адзін міліметр. Паводле слоў прафесара Джузепе Таніола, упершыню пасля ўстанаўлення вымяральных прыбораў яны не зарэгістравалі ніякага адхілення вежы. Вучоныя тлумачаць гэту з'яву ўшчыльненнем пласту зямлі вакол гэтага унікальнага збудавання, вышыня якога перавышае 54 метры.

Гэта навіна не рассеяла, праўда, апаскі адносна лёсу вежы. У 1974-1976 гг. яе штогадовы нахіл складаў 1,5 мм і цяпер дасягнуў 4,25 метра. Бо вежа пачала падаць неўзабаве пасля завяршэння будаўніцтва ў 1350 годзе з-за зрухаў глебы.

Пізанская вежа — турыстычная славутасць Італіі. Штогод па яе прыступках, — а іх каля 300, — падымаюцца 100 тысяч чалавек. Тым, каму ўдаецца дасягнуць вяршыні, здаецца, што яны знаходзяцца на палубе карабля ў час шторму.

Ужо шмат гадоў вучоныя б'юць трывогу, апасаючыся за лёс „падаючай“ вежы. Урад Італіі аб'явіў конкурс на лепшы праект па яе выратаванню. Было зроблена 3 тысячы прапаноў, у тым ліку прапанова, якая прадугледжвае замарожванне глебы вакол пабудовы і стварэнне вялікай падпіраючай калоны. Але ні адзін з праектаў так і не быў прыняты.

У маі 1977 года быў адобраны план будаўніцтва 6 калодзежаў вакол вежы. Аўтары гэтага праекта, які пакуль не ажыццёўлен, спадзяюцца, што падтрыманне пастаяннага ціску вады вакол фундамента спыніць адхіленне вежы. Было выдадзена каля 3,4 мільёна долараў для выратавання помніка, які за ўсю яго гісторыю наведалі дзесяткі мільёнаў турыстаў.

## Дзіця за аўтамашыну

Дваццацігадовы Мітчэл Костэр і яго жонка былі арыштаваны на месцы злачынства: яны садзіліся ў жаданы „Б'юік“, які толькі што вымянялі на сваю 11-месячную дачку.

Незадоўга да гэтага муж і жонка Костэр звярнуліся да афіцыянта аднаго з бараў амерыканскага горада Уічыта (штат Канзас) з просьбай дапамагчы ім зрабіць наступную здзелку: яны гатовы былі прадаць сваё дзіця за 500 долараў або абмяняць яго на аўтамашыну ў добрым стане. Афіцыянт паведаміў аб гэтым паліцыі, якая затым і сачыла за дзеяннямі маладой пары.

„Халатныя адносіны да дзіцяці“ — занадта мяккае абвінавачанне для маладых бацькоў, заявілі сведкі, выслухаўшы пастанову суда.

## Дарога ў нікуды

Лічыльная палата Францыі штогод публікуе даклад, дзе прыводзіць прыклады „памылак“, дапушчаных пры планаванні, за якія, як правіла, разлічваецца падаткаплацельшчык.

Прыкладам № 1 з гэтай серыі названа аўтатраса, якая павінна была злучыць Ліён-Грэнобль з поўначчу Іспаніі. Яе будаўніцтва ўзяла на сябе прыватная кампанія. Першае, што яна зрабіла, — запатрабавала ад урада субсідыі. Пракладка тунеля цераз Пірэнэі да французскага горада Араня і іспанскага Б'ельса ішла значна даўжэй, чым намячалася, — дзевяць гадоў. І каштавала яна ў два разы даражэй, чым было прадугледжана. У завяршэнне да ўсяго аказалася, што дарога ж вядзе ў нікуды. Яе давялі да іспанскай граніцы, але далейшае будаўніцтва прыйшлося спыніць: тут высветлілася, што, ствараючы праект, ніхто не знайшоў часу ўзгадніць з Іспаніяй пракладку маршруту па яе тэрыторыі.





**Беларускія жанчыны.** Марыя Осіпава, арганізатар падрыхтоўкі знішчэння ката беларускага народа В. Кубэ. Герой Савецкага Саюза.

## ХРОНІКА

■ 5 лютага ў гданьскім беларускім клубе адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 35-ай гадавіне абароны Ленінграда, а 11.02 гданьскія актывісты арганізавалі вечар беларускай, польскай і рускай музыкі і песні.

■ 8 лютага ў варшаўскім клубе на Сенатарскай 8 адбылася аўтарская сустрэча з Сакратам Яновічам.

■ 11 і 12 лютага ў вольную суботу і нядзелю беластоцкія актывісты арганізавалі экскурсію ў Белавежу.

■ 11 лютага адбыўся рэгіянальны агляд „Беларуская песня-78“ у Кляшчэлях, у якім узяло ўдзел 23 асобы, а 12 лютага — агляд у Дубічах Царкоўных. На фінальны агляд выбраны калектывы: мужчынскі з Кляшчэль, Тапаркоў, Арэшкава і Вітава; дуэты: з Тапаркоў, Рагачоў і салісты з Мікуліч і Дубіч Царкоўных.

*(Н. Панасюк)*

(Працяг са стар. 1)

## ДЗЕЙНАСЦЬ БГКТ ЗА 1977 ГОД

14 лістапада 1977 г. камісія асветы правяла пасяджэнне, прысвечанае ацэнцы арганізацыйнага складу школьніцтва з беларускай мовай навучання, а 11 снежня гэтага ж года дзякуючы камісіі асветы адбылася сустрэча настаўнікаў беларускай мовы з кіраўніцтвам ГП БГКТ і школьнымі ўладамі.

Камісія культуры правяла тры пасяджэнні, на якіх абмяркоўваліся справы развіцця мастацкай самадзейнасці, ацэньвалася дзейнасць беларускіх клубаў і наогул культурна-асветная дзейнасць БГКТ.

У святкаванне юбілею 60-годдзя Кастрычніка актыўна ўключыўся лектарскі гурток, члены якога зрабілі 15 дакладаў на тэму: „Кастрычніцкая рэвалюцыя і нацыянальнае пытанне“. Апрача гэтага, адбыўся семінар на тэму: „Сацыялістычная сям'я“.

Навуковы гурток разам з літаратурным аб'яднаннем „Белавежа“ з нагоды 60-годдзя Кастрычніка арганізаваў навукова-папулярную сесію пад загалоўкам „Мост, пастаўлены гадамі“, прысвечаную дасягненням беларускай літаратуры пасля рэвалюцыі. Апрача таго „белавежцы“ абмеркавалі падрыхтоўку альманаха „Белавежа № 3“ і ацанілі літаратурную старонку за 1977 год.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на арганізацыю конкурсу „Беларуская песня — 77“. У фінальным аглядзе ўзяло ўдзел 98 самародных песняроў, сярод іх 4 дуэты і 10 калектываў. Якасная ацэнка рэпертуару і яго выкананне ў 1977 годзе выглядала добра. Сярод сталых удзельнікаў конкурсу з прыемнасцю можна было слухаць новыя ансамблі: са Скупава, Дабрывады, Мілейчыц, Тапаркоў; салістаў — Аліну Юшкевіч са Збуча, Любу Шварц з Дубіч Царкоўных і іншых.

Менш задавальнення дае праца і дзейнасць драмгурткоў. Дагэтуль не ўдалося арганізаваць гурток, які дзейнічаў бы на працягу некалькіх год. Спецыфікай драматычных гурткоў з'яўляецца іх кароткае „жыццё“, вельмі часта пасля некалькіх выступленняў яны перастаюць дзейнічаць, а нават існаваць. Усё адчуваецца недахоп адпаведнага рэпертуару для самадзейнікаў, недахоп прафесіянальнай дапамогі з боку раённых дамоў культуры. У фінальным аглядзе драмгурткоў, які адбыўся ў Бельскім доме культуры, на 9 падрыхтоўваючыхся ўдзел узяло толькі 5 гурткоў.

Пачынаючы ад 1976 года ГП БГКТ супольна з ваяводскай бібліятэкай і рэдакцыяй „Нівы“ арганізуе конкурс чытачоў, у якім у мінулым годзе ўзяло ўдзел каля 500 чалавек.

Вельмі папулярнай і сталай формай дзейнасці БГКТ з'яўляюцца фэстыны. У 1977 годзе было іх 6: у Малінніках, Літвінавічах, Ляшуках, Рыбаках, Гаркавічах і Мілейчыцах. У багатай праграме фэстынаў былі выступленні прадстаўнікоў мясцовых улад, даклады, канцэрты, розныя конкурсы, а таксама танцы.

З нагоды дзяржаўных і гістарычных свят гурткі і ГП БГКТ арганізавалі 66 урачыстых пасяджэнняў, 83 вечарыны, 50 лекцый, 11 гутарак, 44 аўтарскія сустрэчы і 28 сустрэч з іншымі цікавымі людзьмі. У клубах „Рух“ і селяніна, ды і ў іншых культурных цэнтрах, дзе дзейнічае таварыства, экспанавалася 210 фотавыставак з жыцця Беларусі і Савецкага Саюза.

Пад апекай БГКТ у 1977 годзе дзейнічалі 83 аматарскія калектывы. Сярод гэтай лічбы: 34 харавыя, 23 драмгурткі, 24 вакальна-інструментальныя і 2 калектывы танца. На працягу года далі яны 62 канцэрты. Выступленні нашых самадзейнікаў карыстаюцца папулярнасцю.

Свае дасягненні БГКТ у вялікай меры мае дзякуючы грамадскаму актыву і супрацоўніцтву з грамадска-палітычнымі арганізацыямі.

**Надзея Панасюк**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Са з'езду нашых карэспандэнтаў ● У заснежаным Гарадку ● 20 працавітых гадоў „Захэнты“ ● Па слядах Л. Родзевіча ● У свеце царкоўнай музыкі ● Моладзь з міхалоўскай акругі ● Рожа ● Весткі з Грыгораўцаў, Спічак, Шудзялава, Гайнаўкі, Нараўкі, Бельска, Дубіч Царкоўных, Кузава, Відава, Рыбал, Галадоў, Градэляў ● Калі сняцца чырвоныя гваздзікі ● Колькі задрыпанец можа выпіць гарэлкі ● Песня „Nim zakwitnie tysiąc róż“.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 4 III** — 6.00 TTR. Upr. roślin. 6.30 Hod. zwierz. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Hod. zwierz. 8.05 Red. szk. zap. 8.15 Pr. dnia. 8.20 Siostra Agnes — dramat społ.-obycz. NRD. 10.00 Czerw., żółte, ziel. 10.05 Z kamerą wśród zwierząt. 10.35 Muzyka na zamku. 11.05 Radar. 11.20 Wesoła orkiestra —ang. kom. muz. 12.50 Radzimy rolnikom. 13.00 Studio 2.

**Niedziela 5 III** — 6.50 TTR. Upr. rośl. 7.20 Hod. zwierz. 7.50 RTSS. Nasze spotkania. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Tam gdzie czas się zatrzyma. — film dok. fr. 11.30 Dziennik. 11.45 Rolnicze rozmowy. 12.15 Klub sześciu kont. 12.40 Zakończenie VI Festiwalu Widowisk Lalkowych. 13.40 Piórkiem i węglem. 14.05 Los. Dużego Lot. 14.15 Ballada o Cable'u Hoguc'u — western ameryk. 16.15 Tele-echo. 17.15 Sport. 18.05 Teatr Komedii. M. Mitrović: Włamanie o północy. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Noce i dnie — serial. 21.45 Muzyka i ekran. 22.50 Sport. 23.05 Muzyka przed północą.

**Poniedziałek 6 III** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — nauki polit. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.15 Sport. 18.00 Droga — serial. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. J. Trifonow: Długie pożegnanie. 22.05 Dziennik. 22.20 Camerata.

**Wtorek 7 III** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Trzech reporterów w tej samej sprawie. 17.50 Sygnały filmowe. 18.20 Człowiek i przyroda — film przyr. hiszp. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — serial. 21.30 Sonda. 22.00 Teatr Małych Form: S. Plath „Trzy kobiety”. 22.50 Dziennik.

**Środa 8 III** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — ped. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Entliczek-słowniczek. 17.00 Platerówki — rep. wojsk. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Nie tylko dla kobiet. 18.15 Kółko i krzyżyk. 18.30 Między nami jaskiniowcami — film anim. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Mężczyzna, który mi się podoba — melodramat franc.-wł. 22.30 Muzyczny kinematograf — teleturniej. 23.15 Czy chciałbyś być kobietą? — pr. roz. 23.35 Godzina literacka.

**Czwartek 9 III** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Turystyka i wypoczynek. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Ekran z Bratkiem. 17.45 Patrol. 18.05 Sport. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Inspektor Morgan prowadzi śledztwo — ang. dramat sens. 22.00 Pegaz. 22.45 Dziennik.

**Piątek 10 III** — 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — psych. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Radości i zmartwienia psa bez imienia — pr. dla dzieci. 17.00 Spotkania z medycyną. 17.30 Niełatwy wybór — odc. II bułg. serialu. 18.35 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Mity i rzeczywistość. Wszystko czego pragniesz to wolność — film dok. 22.35 Dziennik. 22.50 Klub Fantastyki — Karmieni światłem.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 3 III** — 7.25 Film fab. 17.30 P. nożna. Puchar zwycięzców pucharów. 19.30 Koncert.

**Sobota 4 III** — 10.40 Mistrz. ZSRR w lekkiej atletyce w hali. 12.20 Film fab. 15.00 Nie do wiary. 16.15 Film anim. 16.30 Mistrz. świata w jeździe na łyżwach. 17.35 Spektakl. 20.50 Pr. estrad.

**Niedziela 5 III** — 12.00 Spektakl. 14.45 Panorama międzynar. 15.15 Koncert życzeń. 16.15 Klub film. 17.15 Mistrz. świata w jeździe na łyżwach. 17.45 Film fab. 19.30 Mistrz. ZSRR w boksie.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).

## КІНО

**Białowieża** Pójdę z wami — radz. 7—8. Zbuntowani — buł. 9—10. Trzęsienie ziemi — USA 11—12.

**Bielsk Podl.** Czas życia, czas miłości — radz. 7—8. Maratończyk — USA 9—10. Pocałunki z Honkongu — fr. 11—12.

**Czyże** Opowieść o komuniście — radz. Ptaki ptakom — pol. 8—12.

**Dubicze Cerk.** Cyrk w cyrku — czes. To jeszcze nie miłość — NRD 8—12.

**Gródek** Pójdę z wami — radz. 11—12.

**Hajnówka** Dyl sowizdrzał — NRD 8—9. Niewinne — wł. 10—12.

**Michałowo** Wrzos — pol. 7—8. Piraci na Pacyfiku — fr. 9—10. Sam na sam — pol. 11—12.

**Milejczyce** Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 7—8. Śmierć prezydenta — pol. 9—10. Niepotrzebny — buł. 11—12.

**Narew** Rewolwer Python 357 — fr. Nasz nowy braciszek — NRD 8—12.

**Narewka** Konie Valdeza — wł. Zerwana nić babiego lata — radz. 8—12.

**Nurzec** Cherley Varrick — USA 7—8. Pociąg w śniegu — jug. 9—10. Dramat namiętności — kanad. 11—12.

**Orla** Dagny — pol. Gdzie woda czysta i trawa zielona — pol. 8—12.

**Rajsk** Dziewięć miesięcy — węg. Filipek — NRD 8—12.

B.Z.Graf. Zam. nr 474 7822 egz. N-4

НАШЫ ЛІТАРАТУРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

## ЗАБЫТАЯ ЛІРА ВЕРЫ МУРАШКІ

Постаць Веры Мурашкі доўгі час заставалася па-за ўвагай даследчыкаў-літаратуразнаўцаў. На гэта склалася некалькі прычын, з якіх, бадай, найважнейшай была невялікая колькасць яе вершаў, якія час ад часу з'яўляліся ў заходнебеларускім друку міжваеннай пары. Невядомым быў таксама і іх аўтар, які скрываўся пад літаратурнымі псеўданімамі Вера Мурашка, В. Мурашка і Беларуская Мурашка.

Расшыфроўка аўтарскага псеўданіму прыйшла нечакана, калі ў час архіўных доследаў над беластоцкім „Працэсам 45“ (1923 г.) выявілася, што пад гэтай літаратурнай мянушкай выступала Вера Маслоўская — адзін з вядучых дзеячоў супроцьбуржуазнага руху на Беласточчыне ў 1921-1922 гг., галоўны абвінавачаны ва ўпамянутым працэсе, імя якой адбілася шырока ў тагачаснай беларускай і польскай прэсе. Не менш нечаканай і хвалюючай была сустрэча з пражываючай у Супраслі, сёння ўжо звыш 80-гадовай, але бадзёрай і поўнай аптымізму гэтай жанчынай. У выніку быў атрыман не толькі цікавы біяграфічны матэрыял, але і... тоўсты сшытак вершаў, якія паўвеку клапатліва перахоўваліся іх аўтарам.

Вера Мурашка (дзявочае прозвішча — Матэйчык) нарадзілася 24 сакавіка 1896 г. у Супраслі ў малазямельнай сялянскай сям'і. Тут атрымала пачатковую асвету, пасля чаго працавала на тэкстыльнай фабрыцы Цытрона. Вызначылася як арганізатар забастовак рабочых, за што была звольнена з працы. Цяжкае матэрыяльнае становішча не дазваляла на далейшую нармальную вучобу. Былі аднак здольнасці і цяга да навукі. Вера вучылася дома і ў 1914 г. паспяхова здае экстэрнам выпускныя экзамены ў вядомай Свіслацкай настаўніцкай семінарыі.

У 1917 г. Вера зноў у Свіслачы, гэтым разам на чатырохмесячных педагагічных курсах, якія працавалі пры новаарганізаванай беларускай настаўніцкай семінарыі. Закончыўшы іх, накіроўваецца ў вёску Грабавец Арлянскай гміны, дзе арганізуе беларускую народную школу, якой кіруе на працягу двух гадоў. У 1919 г. маладая настаўніца павышае сваю кваліфікацыю на педагагічных курсах у Вільні, дзе ўключаецца ў рэвалюцыйны рух. У пачатку 1921 г. вяртаецца на Беласточчыну і разам з Германам Шыманюком (пс. „Скамарох“) з Грабаўца разгортвае шырока разгалінаваную падпольную дзейнасць, за што была арыштавана буржуазнымі ўладамі і ў маі 1923 г. прыгаворана да шасцігадовага турэмнага зняволення.

Дзякуючы стараннем прадстаўніка савецкага Чырвонага Крыжа ў Польшчы Стэфаніі Сэмпалоўскай, Вера звальняецца з турмы датэрмінова (1927 г.), пасля чаго як былы палітвязень доўгі час застаецца беспрацоўнай. Да любімай настаўніцкай прафесіі вяртаецца ў 1939 г. ужо ва ўмовах савецкай улады. Працавала ў Калантаях Ваўкавыскага павету, Агародніках каля Беластока (1940-1946), Жаганю (1946-1951) і Супраслі. Ад 1958 г. — на пенсіі.



*Вера Мурашка ў 1921 годзе.*

Паэтычная творчасць Веры Мурашкі вырасла на глебе нацыянальна-вызваленчай барацьбы працоўных заходнебеларускіх земляў у пачатку дваццатых гадоў, удзельнікамі якой былі сяляне, рамеснікі і сельская інтэлігенцыя розных палітычных поглядаў і напрамкаў[1]). Старонкі гераічнага народнага змагання, у якім актыўны ўдзел прымае сама паэтэса, былі вядучым матывам усяго ранняга перыяду яе творчасці. Варта заўважыць, што вершы гэтага часу з'яўляюцца не толькі своеасаблівай дакументацыяй настрояў і імкненняў руху, але і важным інструментам яго прапаганды. На гэта паказвае іх высокая грамадзянская заангажаванасць, імкненне ўздзеяння на чытача, іх агітацыйная накіраванасць, што нярэдка пераважвае мастацкія сродкі і формы вершаскладання.

Гэтым мэтам служаць вершы „Мужык“, у якім акрамя гаротнай долі селяніна моцна акцэнтуецца усведамленне яго чалавечай годнасці, а таксама „Ідзі!..“ — з ярка выражаным заклікам да працы і барацьбы за лепшую долю. Несумненную цікавасць выклікае верш „Бацькаўшчыне“, абасаваны на матывах узброенага змагання партызанскага злучэння, якое дзейнічала ў Белавежскай пушчы пад камандаваннем „Скамароха“, а таксама верш „Беларускім партызанам“, у якім паэтэса адгукнулася на крывавыя расправы палявых судоў над удзельнікамі падполля.

Цяжка перажывала маладая паэтэса гады зняволення, пакутлівая атмасфера якіх знайшла адлюстраванне ў значнай колькасці вершаў, напісаных ў 1923-1927 гг. за кратамі варшаўскага Павяка і беластоцкай турмы („Думкі“, „За кратамі“, „Птушка“, „Вясна за кратамі“ і іншыя). Складаюць яны выразна акрэслены тэматычны цыкл яе творчасці, у якім пластычнае адлюстраванне панурых турэмных будняў і пякучай тугі па свабодзе і радзімай старонцы („Там дзе Супрасль, Белавежа, думкі там ляцяць...) не пераходзіць у безнадзейнасць і роспач, а чаргуецца з моцнымі акцэнтамі веры ў „вызвалення сонца“.

Аптымістычная візія жыцця, якая не пакідае Мурашку нават у найцяжэйшых хвіліны, шырока праяўляецца таксама ў яе лірыцы кахання, ці апісаннях прыроды („Успамін“, „Дзе сонейка ты“, „Прамень“, „У гаі“). Гэта тэндэнцыя наглядаецца і ў своеасаблівым запаветным вершы „Хацела б я“ з ярка выражаным гуманістычным асэнсаваннем маралі і суаднасін паміж людзьмі.

Творчасць Веры Мурашкі — слаўнай дачкі Беласточчыны — адыграла акрэсленую ролю на першым этапе барацьбы працоўных Заходняй Беларусі за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Цікава падкрэсліць, што пакуль выраслі і згуртаваліся пад сцягамі Грамады і КПЗБ новыя творчыя сілы, Мурашка карысталася значнай папулярнасцю ў асяроддзі Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі[2]). Аб гэтым сведчыць верш Леапольда Родзевіча „Начны светагляд“, прысвечаны Веры Маслоўскай (Мурашцы), які быў надрукаваны ў віленскай газеце „Нашае жыццё“ (№ 1 ад 30.5.1923 г.) і перадрукаваны Уладзімірам Жылкам у пражскім часопісе „Перавясла“ (№ 1, лістапад-снежань 1923 г.). Важным сведчаннем папулярнасці паэтэсы з'яўляецца знойдзены ў яе асабістым архіве ліст рэдакцыі „Нашага сцягу“ (органа БРА) ад 19 ліпеня 1923 г., адрасаваны пражываючай тады ў Агародніках маці паэтэсы Ганне Матэйчык, у якім чытаем:

„Паважаная пані! Выдавецтва беларускай газеты „Наш сцяг“ просіць Вас не адмовіцца прыслаць па ніжэй пададзенаму адрасу фатаграфію Вашай гераічнай дачкі Веры. Калі маеце яе рукапісы, як вершы, апавяданні ці іншае, дык таксама просім прыслаць заказной аплатай на наш рахунак. Вельмі пажадана было б мець хоць бы кароткае жыццёапісанне п. Веры. Нецярпліва чакаем адказу. Пішыце па адрасу: Wilno, Wileńska 12 m. 6, Redakcja „Nasz Ściah“. Сакратар выдавецтва (—)“[3]).

Невядома, ці вершы Мурашкі паслала тады яе маці ў рэдакцыю „Нашага сцягу“. Нічога не ведае аб гэтым і сама паэтэса, якая тады знаходзілася ў турме. Знойдзены затое верш Мурашкі, прысвечаны газеце „Вольны сцяг“, дасланы нелегальна з-за турэмных кратаў і надрукаваны ў гэтай жа газеце (№ 9 ад 16.9.1923 г.). Паказвае ён не толькі на ідэйныя сувязі аўтара з БРА, але таксама на мэтазгоднасць і перспектыўнасць далейшых пошукаў яе літаратурнай спадчыны. Ад іх паспяховасці залежыць апрацоўка поўнага літаратурнага партрэта Веры Мурашкі — цікавага прадстаўніка беларускай паэзіі Беласточчыны міжваеннай пары.

**Юры Туронак**

[1]) Уладзімір Ладысеў, Старонкі мужнай барацьбы, „Голас Радзімы“ № 49 (1515) ад 8.12.1977 г.

[2]) шырэй аб БРА гл. Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, том 2. стар. 228; A. Bergman, Przyczynek do historii Białoruskiej Organizacji Rewolucyjnej, „Przegląd Historyczny“, 1977, zesz. 1, s. 157.

[3]) Цытаваны дакумент знаходзіцца ў асабістым архіве аўтара.

### ДУМКІ

*Ціха ў цэлі маёй душнай,*
*Спіць пануры дом.*
*За дзень цэлы пасля гора*
*Пазабыўся сном.*

*Толькі ў гэты доўгі ночкі*
*Не магу я спаць.*
*Хутчэй ветру мае думкі*
*У наш край ляцяць.*

*І плывуць яны ў поле*
*У зялёны гай,*
*І ў пушчу, лес высокі,*
*У гэты вечны рай.*

*Дзе так міла кожну весну*
*Птушачкі пяюць,*
*А па небе чарадою*
*Хмарачкі плывуць.*

*Дзе рачушкі каля вёсак*
*Чысты воды льюць,*
*Дзе сцюдзёныя крынічкі,*
*Што галубкі п'юць.*

*Там дзе Супрасль, Белавежа,*
*Думкі там ляцяць.*
*Воля, неба, лес зялёны*
*Іх к сабе маняць.*

*Ціха ў цэлі маёй душнай,*
*Спіць пануры дом.*
*За дзень цэлы пасля гора*
*Пазабыўся сном...*

*1923 г.*

### У ГАІ

*Ў зялёным гаі*
*Пасярод травы,*
*Дзе цалуе краскі*
*Вецер веснавы,*
*Дзе спявачкі-птушкі*
*Весела жывуць,*
*Так люблю я слухаць,*
*Як яны пяюць.*
*Сонца з неба свеціць,*
*Быццам к сэрцу жме —*
*Усяму жывому*
*Ласкі свае шле.*
*Лістам гай чароўны*
*Ціха шалясціць,*
*Краска штосьці сакрэтна*
*Трайцы шапаціць.*
*Рэчка-балбатушка*
*Весела бяжыць,*
*Нешта напявае,*
*Некуды спяшыць.*
*Як жывы гай гэты*
*Весела шуміць:*
*Усё пяе і шэпча,*
*І бяжыць, бяжыць!..*

*1923 г.*



* * *

**Ахвярую нашай роднай газеце „Вольны сцяг“**

*Адзін ты у нас, як яснае сонца,*
*Ты свеціш той праўдай у цяжкі наш час*
*І б'ешся, як птушка у цёмным аконцы,*
*І ласку-пацеху прыносіш для нас.*

*Ідзі, абагрэй ты душу селяніна,*
*Вялікі герою, ты, Вольны наш Сцяг!*
*Бо цяжка і цёмна жыццё славяніна...*
*Ідзі, асвяці ты цярністы наш шлях.*

*„Вольны сцяг“ № 9, 16.9.1923 г.*

### ХАЦЕЛА Б Я

Хацела б я, каб вечна сонца так свяціла,
Як свеціць ў летні дзень яно.
Хацела б я, каб нашы сэрцы былі чысты,
Як ў ціхі дзень марское дно.
Хацела б я, каб свет пагас златога бога,
Што маніць да сябе людское вока,
Каб вырваць зло, што ёсць у сэрцы чалавека,
Каб там не парасло глыбока.
Хацела б я, каб любоў братняя святая
Вечна жыла паміж людзьмі,
Каб агонь дружбы і яднання
Палаў нязгасна на зямлі.

*1923—1927 г.*

### МУЖЫК

*Хоць мужыком ўсе называюць*
*Мяне — зямліцы рабака,*
*Скажыце, хто не спаглядае*
*У бок „дурнога“ мужыка?*
*Не грамацей я, не вучоны*
*І не выбелена рука,*
*А хто не ўзгляне на загоны:*
*„Вось, кажа, праца мужыка!“*
*Іду я босы за сахою,*
*Ці зімкай ў рваным пінджаку*
*І тут гавораць за табою:*
*„Жывецца добра мужыку!“*
*Вось пан адзеты і абуты,*
*Чаго ж яму да мужыка?*
*А як надойдуць толькі смуты,*
*Тады ідзе да мужыка.*
*Хто корміць тых паной на свеце,*
*Як не мужыцкая рука?*
*У войску ёсць чые жа дзеці,*
*Як не таго жа мужыка?*
*Так, я мужык, ім ганаруся,*
*Мая заслуга вяліка*
*І панам я не назавуся,*
*Бо я сын бацькі мужыка!*

*1923-1927 г.*



(Працяг са стар. 1)

# З ДУМКАЙ АБ ЛЕПШЫМ ЖЫЦЦІ

талася. Хаця на вочы бачу, то сляпая, бо калі заеду ў Сямяцічы, то не ведаю, дзе які склеп, дзе якая ўстанова, бо не ўмею прачытаць....“

А ў нас цяпер у Беластоку звыш 10 тысяч студэнтаў. А колькі дзяўчат і юнакоў з беластоцкіх вёсак раз'ехалася за навукай, за працай па цэлай краіне! Бо ўсе дарогі адкрыты. Аж можа замоцна адкрыты. Рыбалы, Трасцянка і іншыя ім падобныя вёскі, якія цягнуцца цэлымі кіламетрамі, моцна цяпер апусцелі. Аднячасова ў гэтых Рыбалах узнікла спулдзельня прадукцыйная. А зямлёй з Трасцянкі зацікавіўся нараўскі сельскагаспадарчы спулдзельчы камбінат. За Рыбаламі ў прамысловых маштабах ужо вырошчваюць куранят, а ў Трасцянцы ўзнікла жывёлагадоўчая ферма. Вопыт беластоцкай партыйнай арганізацыі ў загаспадарванні дзяржаўнай зямлі адобрыла Палітбюро Цэнтральнага Камітэта партыі і распаўсюдзіла яго на пяць іншых ваяводстваў.

Наведваю Бельск. І тут за кароткі час уздоўж вуліцы Міцкевіча, галоўнай вуліцы горада, на месцы старэнькіх домікаў паявіліся новыя гандлёвыя павільёны, а за імі — шматпавярховыя жылыя дамы. Яшчэ ў гэтым годзе Бельск атрымае трыкатажную фабрыку сядлецкай фірмы „Каро“, падобную да той, якая ёсць у Гарадку. А яшчэ і гарадская ачышчальня, і пякарня на 30 тон хлеба ў суткі, і „Эльва“ — фабрыка па вытворчасці кандэнсатараў.

З Бельска недалёка ў Сямяцічы, дзе ў чэрвені гэтага года распачне прыём агародніны камбінат „Гортэкс“. Ужо цяпер адчувальна ўздзейнічае ён на структуру сялянскіх гаспадарак у навакольных вёсках. У Гайнаўцы надалей ідзе разбудова абодвух вялікіх камбінатаў: дрэваапрацоўчага і хімічнага. Саколка праславілася сваім метадам жыллёвага будаўніцтва. Каб паскорыць яго тэмп, у Саколцы прапануюць будучым жыхарам, каб яны самі ў сваіх памяшканнях выконвалі завяршальныя працы. Гэта прынялося. Бо памяшканні, побач харчовых праблем і прадукцыі на экспарт, гэта асноўнае русло турбот партыйнага і адміністрацыйнага кіраўніцтва Беласточчыны. На працягу мінулых двух гадоў, калі палічыць усё дакладна, аж 11620 сем'яў пасялілася ў новых кватэрах. Але ведаем таксама, што чарга на кватэру ўсё яшчэ раскладаецца на шмат гадоў. І таму ў праграме дзейнасці, прынятай на XVI справаздачна-выбарнай канферэнцыі ў Беластоку, знаходзіцца вельмі важны пункт: пабудаваць дадаткова 120.000 квадратных метраў жылой плошчы, каб закончыць гэтую пяцігодку **адным мільёнам** квадратных метраў жылой плошчы ў гарадах і пасёлках Беласточчыны, каб да гэтага дакінуць яшчэ 2000 прыватных асабнякоў.

Вядома, найбольш будуецца ў Беластоку. Для прыкладу: „Фасты“ праходзяць зараз абноўку, якая будзе каштаваць амаль столькі, што пабудова цукроўні ў Лапах. Спулдзельня „Бэтэска“ атрымоўвае новыя павільёны для вытворчасці абсталявання для ванных пакояў (лазенак) па італьянскай ліцэнзіі. Спісак новабудоўляў вельмі доўгі. Капіталаўкладанні на Беласточчыне склалі звыш 13 мільярдаў злотых. За гэтыя грошы пабудавана 350 розных аб'ектаў, а другіх 300 распачалі будаваць. У гэтым спіску знайшліся фабрыкі, школы, бальніцы, яслі, асяродкі здароўя і шмат чаго іншага.

Працавалі мы больш дбайна, бо амаль поўны прырост прамысловай вытворчасці быў дасягнуты шляхам узросту прадукцыйнасці працы. Таму і больш мы зарабляем. Сярэдняя месячная зарплата ў Беластоцкім ваяводстве складае амаль 4.000 злотых. Самаахвярнасць жыхароў Беласточчыны праяўлялася ў шматлікіх грамадскіх пачынах і прадукцыйных абавязацельствах. З думкай аб лепшым жыцці мы былі і будзем разам з партыяй, бо з працы кожнага з нас складаецца паспяховае ажыццяўленне яе смелых указанняў.

**Віктар Рудчык**





БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ — ЧАСТКА XVII**

**Лірыка кахання.** Бядуля ў дарэвалюцыйны перыяд напісаў параўнальна нямнога вершаваных твораў, якія можна залічыць да лірыкі кахання. Да такой катэгорыі належаць вершы: „Песня“ і яшчэ раз „Песня“, „Свеціць месяц...“, „Я пайшоў у сыр-бор“, „Дазволь“, „Доч месяца“.

Два вершы пад аднолькавым загалоўкам „Песня“ напісаны ў 1914 годзе. Па сутнасці тэматыка гэтых твораў у нейкай ступені папаўняецца. У прыгаданых вершах выявіліся песімістычныя настроі. Верш „Песня“, які пачынаецца страфой

*О, сонейка так яснае...*
*Так весела пяецца...*
*Чаму табе, дзяўчыначка,*
*Так благанька жывецца?*

пабудаваны па прынцыпу параўнанняў і запярэчванняў. Аўтар супастаўляе стан душы дзяўчыны са станам прыроды. У прыродзе сонца, яблыня, рэчка, ветрык гэта сінонімы радасці і весялосці. Нягледзячы на тое, што дзяўчына знаходзіцца з імі ў непасрэдным сутыкненні, душа яе напоўнена смуткам. Толькі ў апошняй страфе паэт знаходзіць аналогію, згоднасць паміж прыроднай з'явай і дзяўчынай. Параўноўвае яе з паваленым дрэўцам, „якое ніколі не зазелянее“.

У вершы „Песня“, які пачынаецца словамі „Як бы плача хто ў лагчыне“, таксама маем дачыненне з постаццю няшчаслівай дзяўчыны. У адрозненне ад папярэдняга твора, у якім выступала постаць дзяўчыны, пазбаўленай якіх-колечы канкрэтаў, у гэтым вершы пісьменнік дакладна гаворыць аб прычынах няшчасця гераіні. Бяда дзяўчыны заключаецца ў тым, што выдаюць яе замуж за старога і нялюбага. Тэматыка верша застаецца ў сувязі з народнымі песнямі, у якіх матыў: маладая жонка — стары муж належыць да вядучых.

І ў першым, і ў другім вершы не выступае непасрэднае аўтарскае „я“. Нягледзячы на гэта, адчуваецца ў гэтых творах прысутнасць аўтара і яго спачуванне да няшчаслівых.

З зусім іншым настроем маем дачыненне ў іншых вершах аналізаванага цыклу. Дамінуе ў іх наогул светлая атмасфера, звязаная з пачуццём кахання.

І так, верш „Свеціць месяц...“ гэта свайго роду светлы эцюд, у якім пры-



**Беларускія жанчыны.** Любоў Кананові ч (справа), даярка калгаса „Аснежыцкі“ Пінскага раёна. Герой Сацыялістычнай Працы.

### Кажуць, што...

*...У „Ніву“ пазваніла нейкая чытачка. Вытлумачыўшы, што хоча завесці птушкаферму, яна прасіла аўтарытэтна адказаць, колькі курыца павінна сядзець на яйках.*

*— Адну хвілінку, — сказаў наш рэдактар (хацеў заглянуць у падручнік).*

*— Вялікае дзякуй! — адказала чытачка і павесіла трубку.*

ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## ДЗЕ ДРУЖНЫ ЖАНОЧЫ КАЛЕКТЫЎ

У Васількоўскай гміне зараз актыўна працуюць гурткі вясковых гаспадынь (КГВ) у Дамброўках, Студзянках, Навадворцах і Асовічах.

У Асовічах гурток працуе пад кіраўніцтвам Ірэны Азароўскай. Тут адбыўся курс рацыянальнага харчавання сям'і, у якім удзельнічала 18 жанчын. Заняткі праходзілі ў вясковай святліцы. Варта дадаць, што тутэйшыя клапатлівыя жанчыны спрактыкаваны ў вырошчванні малавядомай гародніны. Апрача таго, кожная з іх лічыць за гонар мець у сябе ля дома дагледжаны агародчык з кветкамі. Асовіцкія кабеты амаль кожны год у асенне-зімовы перыяд арганізуюць розныя паказы: як пячы, варыць, шыць і г.д.

У Студзянках КГВ узначальвае маладая жанчына Марыя Савіцкая-Гурко. Жаночая арганізацыя налічвае 30 асоб. У мінулым годзе жанчыны арганізавалі кулінарны курс, на якім навучыліся многаму. Да 2 лютага гэтага года ў занятках у школе грамадска-палітычнага абучэння жанчын удзельнічала 25 асоб. Цяпер жанчыны плануюць арганізаваць забавы ў стражацкай рамізе дзеля таго, каб мець крыху грошай на краязнаўчую экскурсію. Вясною бягучага года тутэйшыя гаспадыні пасадзяць ружы на круглай плошчы на аўтобусным прыпынку. А ў час руплівых палявых работ, як кожны год дагэтуль, арганізуюць дзяцінец у школьным будынку. Тут заўсёды збярэцца поўны камплект дзяцей, якім будзе патрэбна апека з боку дарослых.

40-асабовы жаночы гурток у Дамброўках узначальвае Зінаіда Сабалеўская (яна старшынствуе ўжо пяты год). У мінулым годзе жанчыны збіраліся ў мясцовай святліцы або ў прыватным памяшканні і супольна вучыліся шыць коўдры, як найлепш зрабіць кампот з фруктаў або заквасіць агуркі. Хадзілі таксама на сельскагаспадарчы курс і пасля здавалі дзяржаўныя экзамены на званне кваліфікаванага земляроба. Дыпломы атрымалі 24 мясцовыя кабеты. Летам арганізавалі дзяцінец, з якога карысталася каля 30 дзяцей. У бягучым асенне-зімовым сезоне ўдзельнічалі ў занятках у школе па грамадска-палітычнаму абучэнню жанчын. У другой палавіне лютага дамброўскія жанчыны арганізуюць кравецкі курс.

У пачатку лютага гэтага года адбылося ўрачыстае заканчэнне заняткаў у школе грамадска-палітычнага навучання ў будынку дамброўскай пачатковай школы, у якім удзельнічаў таксама па запрашэнню прадстаўнік „Нівы“. Сабралася каля 50 жанчын з суседняй вёскі Студзянкі і з Дамброўкаў. Пасля ўручэння пасведчанняў кіраўнічка васількоўскага цэнтра „Сучасная гаспадыня“ — А. Шчэсік уручыла найлепшым рэчавыя ўзнагароды. Атрымалі іх Марыя Савіцкая-Гурко, Крыстына Дзетчык, Ірэна Булынко, Ніна Завадская, Ванда Федасюк, Вольга Кардаш і Леакадзія Маліноўская — са Студзянак і Зіна Сабалеўская, Галена Саньчык, Юлія Барысевіч, Ліля Саньчык і Яўгенія Савіцкая — з Дамброўкаў. На заканчэнне гэтага мерапрыемства жанчыны з дзвюх вёсак супольна падрыхтавалі для дэгустацыі ўсялякія мясныя вырабы. Затым адбылася танцавальная вечарына.

Добра, калі цвіце такая жаночая дружба!

**Я. Целушэцкі**

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

### ШКОЛА СЯМЕЙНЫХ АДНОСІН

Вяртаўся я з мястэчка, куды адвозіў кантрактаваных кормнікаў, а едучы дамоў, яшчэ забраў мінеральныя ўгнаенні.

Падганяў я каня, каб хутчэй дабрацца да сваёй Палашкі, якая, напэўна, думаў, пачастуе мяне найперш гарачым чайком, а пасля яшчэ паставіць на стол міску тлустай капусты. Так было яно заўсёды, калі я вяртаўся з дарогі або з поля, дык чаму ж на гэты раз мела быць інакш?

Маёй Палашкі дома не было, а на стале замест духмянага чаю, знайшоў я запіску:

„Накармі жывіну і паеш сам! Я пайшла ў школу“.

„Адурманела баба, ці як?!“ — падумаў я і цікавасць мяне ўзяла такая, што забыў пра яду і пра галодную жывіну, а толькі павярнуў сваю кабылку і паімчаўся пад школу. „Ну, тут то я цябе правучу!“ — думаў я, рыхтуючыся да сустрэчы з маёй жонкай. Гнаўся праз вёску, быццам ашалелы, толькі снег ляцеў з-пад капыт кабылкі, на якой спаганяў я накіпеўшую злосць.

Школа зіхацела ўсімі электралямпачкамі, а за вучнёўскімі столікамі сядзелі нашы паважаныя жанчыны. Сярод іх, крыху ззаду, прыкмеціў я і сваю Палашку. Нейкі гарадскі пан дастойна шпацыраваў між партамі і штосьці талкаваў жанчынам.

— Што ты, Максім, прыпер як на пажар? Зайздросны? — пацікавіўся сусед Шыман. Іншыя сяляне дружна засмяяліся. І тады я пераканаўся, што каля школы сабраўся цэлы натоўп зацікаўленых мужчын, жонкам якіх раптам захацелася навукі. Стала мне неяк сорамна. Павярнуў я кабылку назад і паплёўся дамоў.

Палашка вярнулася позна. Я сяджу, позірк у тэлевізар настроіўшы, і маўчу.

— Максімка мой даражэнькі, — адазвалася яна да мяне саладзенькім галаском, якім нават зараз пасля шлюбу ніколі не адзывалася. — Выбачай, родненькі, шта я табе вячэру не нарыхтавала, але якраз сёння распачаліся ў нас заняткі ў школе грамадска-палітычнага выхавання жанчын.

Далоні ў мяне свярбяць, ліхаманка пачынае трасці, але я маўчу, губы зацiснуўшы.

— Адзін такі вельмі разумны пан, які прыехаў да нас аж з Беластока, — шчабятала мая жонка, — чытаў нам сёння лекцыю аб культуры сямейных адносін. Ведаеш, Максіме, ён гаварыў, што цяпер нават у вёсках мужчыны маюць абавязак, чуеш, нават абавязак займацца гэтымі самымі справамі, што і жанчыны....

— То ідзі і скажы гэтаму пану, — не стрымаў я, — каб ён заўтра на досвітку прыйшоў за цябе кароў падаіць і свіней накарміць, а ты за мяне будзеш гной выкідаць, каня чысціць і мяшкі з угнаеннем з воза ў клуню пазносіш.

— Максім, Максім... — неяк спачувальна прагаварыла жонка. — Замест злавацца, лепш даў бы павячэраць, бо я так змарылася ад гэтай навукі!

І яна прытулілася да мяне, як заканая дзяўчына. Мая злосць недзе растаяла і я, першы раз у жыцці, заварыў сваёй жонцы чайку, адрэзаў кусок найлепшай каўбасы, ды яшчэ чарку паставіў на згоду.

Школа цягнулася яшчэ доўга. Вярталася мая Палашка з заняткаў і розныя дзівы расказвала мне пра далёкія краіны, дзе голад і людзі сотнямі тысяч гінуць ад недаядання, або пра гэтых чорных афрыканцаў, якім нельга нават на лавачцы пасядзець разам з белым... Пра новыя кармавыя расліны яна мне расказвала, а нават пачала агітаваць за кукурузу, каб пад яе прызначыць паўгектара гэтага поля, на якім

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.




*Пралескі першыя на свет зірнулі,*
*Чуваць званочак срэбны ручайка.*
*Сяброўкі, сёстры, любыя матулі,*
*Са святам Восьмага Сакавіка!*

**Фота Я. Чэрнякевіч**



**Размалюйце каляровымі алоўкамі. У каго найпрыгажэй атрымалася?**

**Л. Сяргееў**

# ВЯЗАННЕ

Мая цёця ўсё жыццё вязала. Калі сабраць, што цёця звязала, атрымаецца цэлая выстаўка самаробных вырабаў. Цёця вязала ўсё: фіранкі, пакрывалы, рукавічкі, шкарпэткі, шалікі, шапкі, світары, сукенкі, спадніцы, карункі... Усе нашыя знаёмыя і знаёмыя знаёмых хадзілі ў вырабах цёці. А тыя, хто яшчэ іх не меў, марылі пазнаёміцца з цёцяй.

Цёціна слава тлумачылася проста — цёця прыдумвала новую вязку. Гэта быў незвычайна прыгожы ўзор: ён выглядаў прыгожа і на тоўстым мужчынскім світары, і на тонкіх карункавых, як павуцінка, пакрывалах. Уся справа была ў тым, з чаго робіш — з воўны ці з атласку, шоўку ці простых нітак. Цёця рабіла хутка і за некалькі год абвязала ўвесь наш раён. На вуліцы па цёціных світарах людзі пазнавалі нават адзін другога. Дзякуючы цёці ўсе хлопцы і дзяўчаткі пачалі мяне вельмі паважаць. Кожны ж хацеў мець добры цёплы світар. Вось і хадзілі за мною, як кураняты за курыцай, і прасілі, каб я угаварыў цёцю звязаць ім што-небудзь. Мне даводзілася доўга тлумачыць, што вязаць — гэта не шыць, што тут патрэбна цярплівасць і вопыт і што наогул цёця робіць світары толькі для маіх найлепшых сяброў. Пасля гэтых слоў кожны вылазіў са скуры, каб заслужыцца ў мяне. Адзін даваў сцізорык, іншы — салодкую булку, трэці абяцаў купіць білет у кіно. Прыняўшы падарункі, я абяцаў папрасіць цёцю, але адразу ж папярэджваў, што ў цёці працы па горла, каб яны не спадзяваліся атрымаць заказ у хуткім часе.

Калі хлопцы толькі хадзілі за мной, дык дзяўчаты проста праходу не давалі. З самай раніцы яны чакалі мяне каля ўваходу, і як толькі я паяўляўся, совалі мне спіскі, якія вязаныя рэчы ім патрэбны.

Толькі адна дзяўчынка ніколі не прасіла мяне пагаварыць з цёцяй, а яна мне больш за ўсіх падабалася. Яна жыла на суседняй вуліцы. Яна была зялёнавокая, светлавалосая, хадзіла па вуліцы высока падняўшы галаву, і ніколі не глядзела па баках.

Аднойчы я ішоў па вуліцы, раптам бачу — насустрач крочыць яна і побач з ёй незнаёмая дзяўчынка ў цёцінай блузцы. Я адразу ж і падышоў і сказаў, ківаючы на блузку:

— Мая цёця вязала.

Я думаў, вось зараз яна не вытрымае і папросіць пагаварыць з цёцяй, але яна толькі пачырванела і апусціла вочы.

— Хочаш, я скажу цёці і яна звяжа табе такую самую? — звярнуўся я да светлавалосай дзяўчынкі.

— Дзякую, — прагаварыла дзяўчынка. — А калі можна зайсці?

— Заходзь праз тыдзень, блузка будзе гатова.

Дома я сказаў цёці:

— Цёця, зрабі адной дзяўчынцы блузку.

— Не ведаю, ці змагу, — паківала галавой цёця. — Штосьці ў апошні час пальцы пачалі балець.

— Цёця, вельмі трэба.

— Не ведаю, не ведаю.

На двор я выйшаў сумны. Што цяпер сказаць дзяўчынцы? Выйдзе, што я ілгун. А калі цёця наогул больш не зможа вязаць?! Аб гэтым страшна падумаць! Тады я нікому не буду патрэбны!..

Праз два дні цёця закончыла маміну сукенку, і я зноў папрасіў звязаць блузку, але цёця сказала тое, чаго я больш за ўсё баяўся:

— Ужо не змагу, зусім рукі не слухаюцца. Ды і вочы нічога не бачаць. Мабыць, канец з маім вязаннем. Паспрабуй сам. Гэта няцяжка. Вось глядзі! — І цёця раскрыла мне сваю таямніцу вязання.

Я так ўцягнуўся ў вязанне, што зусім засвоіў цёціна рамяство. Я нават пачаў вязаць хутчэй, чым цёця. Вядома, я не прызнаваўся, што вяжу. Бо я ж усё-такі мужчына.

Праз тыдзень дзяўчынка зайшла да нас, я падаў ёй гатовую блузку і толькі хацеў закрыць за ёй дзверы, як яна заўважыла цёцю і кінулася дзякаваць ёй.

— Ды што ты! Што ты! — адказвалася цёця. — Не дзякуй мне, а вунь яму. Гэта ж ён звязаў...

Дзяўчынка на хвіліну анямела, потым пачырванела, апусціла вочы і ціха прагаварыла:

— Які ты малайчына! Вялікае табе дзякуй!

Калі аб гэтым даведаліся сябры, мяне перасталі прасіць „гаварыць з цёцяй", яны проста патрабавалі, каб я ім неадкладна вязаў. А тут яшчэ пайшоў слух, што я даўно вяжу, і што мая цёця ніколі не ўмела вязаць, і што ў мяне наогул няма ніякай цёці...

Усё ішло як найлепш, але вось бяда — неяк сустракаю гэту дзяўчынку, а на ёй блузка нібы мая, а нібы і не мая.

— Што гэта ты з ёй зрабіла? — пытаюся.

— Прабач, — кажа, — мама вымушана была яе перарабіць. Толькі я яе надзела, а яна ўся і распаўзлася. У цябе нейкае дзіўнае вязанне.

**Л. Танкевіч**

## МАЛЫ ПАМОЧНІК



Белаю дарожкай
Праз пушысты снег
Хуценька Сярожка
Проста ў лес пабег.

У мяшочку сена
Наўпіхана шмат,
А ў кішэнях многа
Ягад і зярнят.

У кармушку сена
Мяккае прынёс.
Высыпаў з кішэняў
Ягады, авёс.

А калі яліну
Дакрануў нагой,
Шышкаю вавёрка
Кінула ў яго.

роднья абставіны і становішча закаханых застаюцца ў поўнай гармоніі.

*Месяц свеціць. Зорка з зоркай*
*Пачынаюць шэпт-гаворку.*
*За сцяною чую шолах:*
*— Адчыні, я друг, не вораг.*
*Ціха дзверы адчыніла.*
*— Дзе ты, Янка, дзе ты мілы?*

Вершы „Я пайшоў у сыр-бор“ і „Дазволь“ гэта творы, напісаныя ад імя аўтарскага „я“. Па сваім настроі творы гэтыя належаць да супрацьстаўных. Верш „Дазволь“ гэта палымяны зварот закаханага паэта да дзяўчыны. Твор характарызуецца так званай спавітай будовай. Гэта значыць, што кожная яго страфа пачынаецца і заканчваецца тым самым радком. У трох строфах верша паэт шэсць разоў паўтарае словы: „Дазволь цябе любіць“. Увесь твор характарызуецца прадуманай структурай паэтычнай фразы. Настрой, пранізваючы верш, належыць да бадзёрых, радасных. З чымсьці зусім супрацьстаўным маем дачыненне ў вершы „Я пайшоў у сыр-бор“. Тут як бы выступае герой, які не знайшоў зразумення ў той, да якой звяртаўся са словамі: „Дазволь цябе любіць“. З гэтай прычыны ўцякае ў лес, каб знайсці там спакой:

*Там забуду ўначы,*
*У лясной цішыні*
*Аб дзявочай красе,*
*Аб сардэчным агні.*

Верш „Доч месяца“ гэта алегорыя. Утрыманы ён у стылі балады. Пісьменнік апавядае аб дачцы месяца, якая зляцела на зямлю ў абдымках каханага дуба.

Трэба падкрэсліць, што дакастрычніцкая лірыка кахання Бядулі не прадстаўляе арыгінальнай з'явы на фоне тагачаснай беларускай паэзіі. Багдановіч, Гарун і іншыя тагачасныя беларускія пісьменнікі гаварылі аб каханні больш смела і наватарска.

М. ШАХОВІЧ

## З народных гаворак

**бігос** — (г — вымаўляецца, як польскае „g“) — вада, у якой варылася скробаная бульба. Дісь на обід картофэль навару, то з бігосом зїмо. Ты бэры ложку картофэль і бігосу ложку.

**каплун** — від стравы. Залітыя пасаложаным кіпенем кусочкі хлеба. Давайтэ на вэчэру каплуну наварымо, вжэ давно нэ было. А, за каплуном там вжэ много наробіш.

**музя** — густы развараны суп, найчасцей з фасоляй. Як ты можэш такую музю йести? Як наварыла музявкі, то йеш тэпэр сама.

**оскіерытісь** — лёгка ўсміхнуцца кутком вуснаў. І то оскіерыться і глєдіт на тэбэ, от малыш. Ты пэрэстань оскіэруватісь, бо я тобіе зараз покажу.

**хлястік** — вузенькая палоска ззаду пінжака. Ну пэрэстань тёгаті, бо хлястік обырвэш. Нэ зачыпай хлястіка.

*(Сакі, гміна Бельск)*



**Беларускія жанчыны.** Алена Бялова, заслужаны майстар спорту СССР па фехтаванні. Алімпійская чэмпіёнка. Чэмпіён свету.

я хацеў пасадзіць цукровыя буракі. А якія смачныя стравы пачала яна варыць, а булачкі якія... то з макам, то з сырам, то яшчэ з чым іншым. Урэшце загадала, каб закалоць аднаго, яшчэ не зусім дакормленага, парсючка.

— Навошта табе гэта? — пацікавіўся я.

— То ж рыхтуем урачыстае заканчэнне нашай школы! — пасніла яна і дабавіла неяк таямніча: — Начальства прыедзе, разумееш?

Ох, балявалі нашы жанчыны і нас яшчэ на другі дзень запрасілі. Паспрабавалі мы тады ўсякай усячыны, аб якой і жыцці нам не снілася! Радаваўся я, што новае жыццё пачну, але на другі дзень да абеду мая Палашка, як даўней, зноў паставіла перада мною міску капусты і талерку бульбы. Я глянуў на гэта і запытаў:

— А ты не магла б нейкі шніцэль з яйцом, або адбіўную катлетку падрыхтаваць?

Палашка паглядзела на мяне неяк дзіўна.

— Дзякуй богу, што і гэтае маеш, а то ў Індыі, або ў Бангладэш — ведаеш колькі людзей галадае? А яму шніцэляў і катлетаў захацелася!

І як тут злавацца на яе, калі яна праўду кажа.

**Максім Нурэцкі**

## Так бывае...

### АДХУДЗІЛАСЯ

Дзяўчына, як лён, расла. Здаровая, жыццерадасная, круглашчокая Кацярынка не была выдатніцай у сярэдняй школе, але залічалася да лепшых вучняў. Бывала, вернецца са школы ў добрым настроі пасля шасцігадзінных заняткаў і крычыць: „Мама, есці давай, кішкі марш іграюць“. І маці хуценька прагаладаўшайся дзяўчыне падавала суп з хлебам, а пасля яшчэ тое-сёе, што ўдалося падрыхтаваць на абед. Кацярынка заўсёды ела з апетытам. Расказаўшы аб усіх падзеях бягучага дня ў школе, бралася яна рыхтаваць занятк на заўтрашні дзень. Спаць ішла з кніжкаю і чытаючы засынала. Маці ціхенька аднімала падручнік, папраўляла падушку і коўдру і, паглядзеўшы на яе ласкава, па-мацярынску, гасіла святло і адыходзіла з прыемным хваляваннем. Маці ніколі з Кацярынкай не мела аніякіх клопатаў. Была яна паслухмяная, спакойная, не дамагалася, як іншыя дзяўчаты дарагой моднай вопраткі.

Клопаты паявіліся тады, калі Кацярынка „паннай“ стала. Пачало ёй здавацца, што яна вельмі тоўстая. Але ўсё яшчэ было б добра, каб не жарты яе сяброўак аб тым, што яна таўсцейшая ад іх, што ёю не будуць цікавіцца кавалеры, бо хлопцам таўстухі не падабаюцца. І перанялася гэтым Кацярынка. З гэтага часу пачалі хадзіць за ёю, як цень, сарамлівасць і пачуццё прыніжанасці. Кацярынка цвёрда вырашыла пахудзець. Па-свойму, бесталкова, неразумна ўзялася папраўляць сваю фігуру. Перастала есці супы, перастала вячэраць, саладзіць чай. Замест таго, каб абмежаваць стравы, ад якіх чалавек паўнее, стала фанатычкай галадоўкі. А была яна сярэдняга выгляду. Паўнаватых дзяўчат ёсць многа. Але што ты зробіш, калі тваё роднае, каханае дзіця пачынае слухаць неразважных людзей, калі запрэцца на сваім і робіць глупствы...

Нічога не дабілася маці ні просьбамі, ні лаянкамі. Казала: „Калі ўжо вырашыла ты пахудзець, дык трэба рабіць гэта пад наглядам лекара!“. Але дачка заўзята балбатала аб тым, што яна, мяркую, найтаўсцейшая ў класе, калі не лічыць Люсі і Дусі, што як будзе яна такая, як цяпер, ніхто ніколі яе не пакахае. „Дочанька! Тваё ад цябе нікуды не ўцячэ, — тлумачыла маці. — На ўсё прыйдзе свой час. Найважнейшае — быць здаровай. Здароўе — найдаражэйшы скарб чалавека, найвялікшае яго шчасце, а галадоўка, рэгулярнае недаяданне можа яму зашкодзіць!“

Не ўпрасіла, не ўмаліла маці Кацярынку і моцна перажывала, калі дачка стала на вачах худзець. Але затое Кацярынка была шчаслівая, што робіцца фігурнаю, ды яшчэ менш есці стала.

Худзела яна ўсё больш і больш. Пачынала есці, але ўжо не хацелася, не мела ўсю апетыту. Валасы не сталі матавыя і пачалі выпадаць. Наступіла аслабленне зубоў. Недахоп вітамін выклікаў некарысныя змены на яе твары. Паявіліся клопаты са страўнікам. Апрача ўсяго гэтага, спынілася менструацыя.

Кацярынка стала горш вучыцца. Хутка стамлялася. Наступіла ў яе агульнае растройства арганізму. Неабходна было сур'ёзна і доўга лячыцца.

Кацярынцы трэба рыхтавацца да матуры, а не хапае сіл. Праз сваю дурнату стала яна хворым чалавекам. На сабе пераканалася, што лепш быць поўнай і здаровай, чым шчуплай, але хворай. Найбольш плюе сабе ў бараду за тое, што не паслухалася маці, якая так настойвала, каб адхуджалася яна пад наглядам лекара.

**М. Сваяк**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ЛЮБОЎНАЯ




*Туман туман по долінї,*
*туман, туман по долінї,*
*шырокі ліст на калінї,*
*шырокі ліст на калінї.*
*А шчэ й шэршы на дубочку,*
*а шчэ й шэршы на дубочку.*
*Клічэ голуб голубочку,*
*клічэ голуб голубочку.*
*Хоть нэ свою, та й чужую,*
*хоть нэ свою, та й чужую:*

*— Выйды, сэрце, поцылую.*
*выйды, сэрце, поцылую.*
*— Годі, годі цыловаті,*
*годі, годі цыловаті,*
*сэрцу тугі задаваті,*
*сэрцу тугі задаваті.*
*Нэ задавай сэрцу тугі,*
*нэ задавай сэрцу тугі,*
*нэ возьмэш ты — возьмэ другі,*
*нэ возьмэш ты — возьмэ другі.*

Ад Сцепаніды Вашчук, 1913 г. нараджэння, вёска Быстры гм. Боцькі, запісаў 13 студзеня 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## ТРАДЫЦЫІ І СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ



Канец 1977 года азнаменаваўся ў І агульнаадукацыйным ліцэі ў Беластоку вялікай і важнай падзеяй: школа атрымала імя Адама Міцкевіча.

Якраз такое імя школе выбралі самі вучні з настаўнікамі і бацькамі ў агульнашкольным плебісцыце, аб'яўленым задоўга да ўрачыстасці.

Імя Міцкевіча — ураджэнца галубых прастораў Навагрудчыны, блізка школе, якая ў штодзённай сваёй выхаваўчай працы з вялікай павагай прадаўжае багатыя традыцыі сужыцця і дружбы народаў, культур і літаратур.

Урачыстасць прысваення І беластоцкаму ліцэю імя Міцкевіча адбылася ў 200 гадавіну існавання школы. А было гэта так: у 1777 годзе Камісія нацыянальнай адукацыі заснавала ў Беластоку першую сярэднюю школу. На працягу многіх гадоў была яна адной з найлепшых школ на тадышніх польскіх землях. Яе наведаў сам кароль Станіслаў Аўгуст, прыязджалі сюды шматлікія выдатныя педагогі XVIII стагоддзя.

Карысным стала для школы далучэнне яе да Віленскай навуковай акругі. Пасля 1807 года школа атрымала поўныя правы гімназіі, а яе настаўнікамі былі выпускнікі Віленскага універсітэта.

У час гітлераўскай акупацыі настаўнікі беластоцкай гімназіі прысвяцілі свае сілы тайнаму навучанню моладзі.

Ідучы па шляху вялікіх традыцый, І агульнаадукацыйны ліцэй імя А. Міцкевіча ў Беластоку стараецца прадаўжаць сваю багатую педагагічную дзейнасць. Па выніках навучання — гэта адна з найлепшых школ у краіне. Аб гэтым сведчыць паказчык выпускнікоў школы, прынятых у вышэйшыя навучальныя ўстановы — універсітэты, палітэхнікі, медыцынскія акадэміі, вышэйшыя эканамічныя і сельскагаспадарчыя школы ўсёй краіны. (Кожны год некалькі найлепшых выпускнікоў едзе на вучобу ў Савецкі Саюз). Гэты паказчык за апошнія пяць гадоў дасягнуў 80 працэнтаў і больш.

Вучні ліцэя прымаюць удзел ва ўсіх алімпіядах і выказваюцца высокімі ведамі ў паасобных галінах навукі. Вельмі многія даходзяць да цэнтральных алімпіяд.

У выхаваўчай дзейнасці школа паспяхова рэалізуе праграму: новы чалавек сацыялістычнай радзімы, прышчапляючы моладзі высокія маральныя якасці — высакароднасць, чэснасць, уражлівасць, любоў да бацькоў, пашану да старэйшых і заслужаных у барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

І беластоцкі ліцэй імя Міцкевіча як адна з нямногіх школ у краіне аб'яднаны ў ЮНЕСКА. Гэта дае школе шырокія магчымасці кантактаў з падобнымі школамі за мяжой. Між іншым, за мінулы год ліцэй наладзіў сяброўскія сувязі з некаторымі савецкімі школамі. Самы цёплы кантакт у іх з сярэдняй школай № 50 у горадзе Мінску — сталіцы БССР. Школа гэтая таксама аб'яднана ў ЮНЕСКА. Моладзь і дырэкцыя плануе пашырэнне супрацоўніцтва з гэтай школай у будучыні. Цікавы можа быць для чытача і факт, што настаўнікі рускай мовы і моладзь ліцэя вядуць актыўнае супрацоўніцтва з рэдакцыяй польскіх перадач Маскоўскага радыё.

Восенню мінулага года школа прымала высокую дэлегацыю асветных улад з некалькіх савецкіх рэспублік. Як пашырыць супрацоўніцтва? — на такую тэму дырэкцыя ліцэя правяла размову з прарэктарам Гродзенскага педагагічнага інстытута.

Як бачым, развіццё братэрскіх сувязей І беластоцкага ліцэя стаіць на моцных асновах.

**Гражына Злоцкая-Кажэнеўская**
Фота Віктара Рудчыка

# PARTITA



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Батуся Гарадкевіч з Мастаўлян і Ева Грынявіцкая з Асоўкі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Дачка жыла супольна з бацькам на гаспадарцы і з ім супольна працавала. Сын мае сваю гаспадарку. Пасля смерці бацькі ў верасні 1976 г., сын зaараў і засеяў дзялянку каля 1 га жытам, а ў 1977 г, нягледзячы на пратэст сястры, зжаў жыта. Сын спасылаецца на тое, што бацька пакінуў завяшчанне, у якім запісаў на яго гэтую дзялянку. Ці можа сястра патрабаваць звароту ўраджаю жыта або кампенсацыі?

АДКАЗ: Сястра павінна была патрабаваць праз суд, каб брат вярнуў ёй уладанне дзялянкай. Незалежна ад таго, ці брату прыслугоўвае права да дзялянкі, ён не меў права самавольна заараць і засеяць дзялянку. Суд, не разглядаючы справы адносна праў наследнікаў, загадаў бы, каб брат звярнуў сястры дзялянку, пасля чаго магла б яна патрабаваць звароту ўраджаю або кампенсацыі. Аднак іск аб звароце бясправўна парушанага ўладання можна прад'явіць толькі на працягу года. Таму цяпер справа можа быць вырашана толькі праз сцвярджэнне судом набыцця права на спадчыну. Калі суд прызнае завяшчанне важным, брат будзе мець права на запісаную яму дзялянку. Аднак на перашкодзе могуць стаяць правілы, якія забараняюць падзел сельскай гаспадаркі. Правілы гэтыя залежаць ад таго, які абшар мае гаспадарка брата і гаспадарка, якую пакінуў бацька. Калі б гэткія перашкоды існавалі, сястра магла б патрабаваць звароту дзялянкі і ўраджаю або кампенсацыі.

## Вер-не вер

Астроне! У мяне ў хаце ёсць вялікі вазон. А сніцца, быццам бы ён у мяне ў пакоі на рабоце стаіць. Прыйшла сваячка мужа, ён ёй спадабаўся. Кажа, што хацела б мець такі вазон. І я ёй дазволіла ўзяць галінку. Але яна, адрэзваючы, як пацягнула нажом, дык няхочучы амаль палову галінак адрэзала. Праз некалькі дзён сніцца ізноў той жа вазон. Толькі ўжо ў хаце стаіць. Я гляджу, а на ім усё лісце абсыпалася, толькі галінкі засталіся.

І яшчэ што снілася. Быццам я зайшла недзе ў магазін штосьці купіць і ў мяне прапала сумка, а ў ёй 16 тысяч злотых. Я чую, хтосьці кажа: „Укралі сумку“. Я падыходжу і кажу, што і мая недзе прапала. Я вельмі перажывала. І калі прачнулася, дык уцешылася, што хаця няпраўда гэта. А толькі паспела заснуць, і тут жа сніцца той жа сон. Толькі я ўжо са знаёмай жанчынай у магазіне з матэрыяламі. Стаім у чарзе і хочам купіць матэрыял на сукенкі. Я ізноў агледзелася, што сумкі няма і маіх грошай. Мы выйшлі з чаргі і пачалі шукаць. І прачнулася.

Марыся

**Марыся!** Чакае цябе нейкая страта, урон у радасці. Вазон, як і кветка, з'яўляецца сімвалам радасці і ўсяго жывога. А твой вазон спачатку акалечыла сваячка твайго мужа, а пасля і зусім асыпалася з яго лісце, засталіся толькі голыя галінкі.

Што датычыцца другога сну: нешта знойдзеш, чакае цябе верны прыбытак, бо ў сне ты страціла сваю сумку з грашыма.

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Выйшла я замуж у 19 год. Нарадзіла двое дзяцей. Дзеці яшчэ былі невялікія, калі памёр мой муж. А быў ён добрым да мяне і чулым, сардэчным бацькам. Прападаў за дзецьмі. І яны яго вельмі любілі. Але страшная, бязлітасная смерць забрала яго ад нас. Не было лёгка мне адной выхоўваць дзяцей. Многа працавала, каб хаця матэрыяльна не было ім горш ад іншых. І раслі дзеці — адзіная мая пацеха. Неўзабаве пасватаўся да мяне хлопец, я тады яшчэ маладая была. Але я і слухаць не хацела аб замужжы. Бацькі казалі: „Таго не ўваскрэсіш, трапляецца, дык выходзь“. Але я стаяла на сваім. Ішоў час, дзеці раслі. Нядаўна дачка выйшла замуж і выехала жыць аж на Узбярэжжа. Рэдка бачымся, бо гэта далёка ад нашага малога гарадка. Сын канчае тэхнікум і таксама мае дзяўчыну. Мала сядзіць дома, як толькі мае свабодны час, дык і бяжыць да яе. Я ўжо цяпер маю больш свабоднага часу, але куды пойдзеш адна? І часамі бывае сумна вельмі. І вось пазнаёмілася я з мужчынам. Ён старэйшы за мяне, у яго адна дачка, замужняя і не жыве з ім разам. Адзін у хаце астаўся. Прыходзіць да мяне ўжо больш як паўгода. Сімпатычны, ён і з сынам пагаворыць. Прапануе жаніцца. Я раілася з дзецьмі. Яны не супраць. У яго і кватэра добрая, туды б я і пайшла, а гэта сыну засталася б. Але ўсё ж не магу рашыцца, каб даць канкрэтны адказ.

Марта з С.

Марта! Я не супраць замужжа. Пакуль дзеці былі малыя, ты была занятая імі і працай. Але час ідзе, дзеці растуць, маюць свае справы, а потым і свае сем'і. І сумна адной. Таму і варта выйсці замуж яшчэ раз. Важна толькі, каб чалавек быў адпаведны. Мусіш дакладна яго пазнаць, бо мужчыны часамі ўмеюць дасканала маскавацца. Але, жывучы ў адным невялікім горадзе, з гэтым не цяжка.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

### ПАРА ПАДУМАЦЬ ПРА ВЯСНУ!

Як будзем апранацца вясною? Такое пытанне нуртуе гаспадарных жанчын, якія пра веснавую вопратку думаюць загадзя, хаця на двары яшчэ ляжыць снег. Сонца, бывае, прыгрэе неспадзявана, снег топіцца ў адзін момант, і тады аказваецца, што ў нашай шафе „пуста“. Пуста, зразумела, у пераносным сэнсе, паколькі ў шафе заўсёды нешта знойдзецца. Хацелася б аднак выглядаць модна.Назіраючы за апошнімі ўказаннямі веснавой моды, можна сцвердзіць, што нічога супер-новага яна не ўводзіць. Вельмі дэмакратычная даўжыня спадніц: ад каленяў і да костак. У модзе вялікі разнабой. Зноў штаны, штаны, штаны, да якіх жанчыны за апошні час усё ж вельмі прывыклі. Свой рэнесанс перажывае дамскі жакет, добра нам знаёмы ўжо многія гады, а таксама пінжак у мужчынскім стылі. Да жакетаў і пінжакоў носяць як вузкую спадніцу, так і шырокую розных фасонаў. Пінжакі апранаюць таксама на сукенку. На нашых здымках вы бачыце дзве жаночыя постаці: адна апранута ў больш элегантным стылі, другая — спартыўна. У гэтай вопратцы істотную ролю адыгрывае супастаўленне колераў і дапасаванне вопраткі да фігуры. Такую спадпічку белага колеру можна зрабіць з цёмнасінім жакетам, аздобленым белай выпусткай. На шыі белая хустачка. Зрэшты, колеры кампанаваць можна вельмі разнастайна. Наймаднейшыя, аднак, спакойныя колеры — шэры, беж, чорны, белы, цёмнасіні.

**Сяброўка**





## А. ВОІНАЎ



# КАМЕНДАНЦКАЯ ГАДЗІНА

### ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

Жанчына спалохана адхіснулася, і Лена заўважыла, як здрыганулісі куточкі яе няроўна пафарбаванага рота. Відаць, яна не зусім дакладна памятала водгук, у яе цёмных вачах узнік выраз неспакойнай напружанасці. Павольна вымаўляючы словы, быццам вучаніца, якая не ўпэўнена ў сваіх ведах, яна адказала:

— Слоўнік... Слоўнік... У Жэні. Я сёння там буду. Захаплю. І заўтра...

Лена не даслухала яе.

— Добры дзень, Валя! Нам трэба пагаварыць.

— Гэта ты, Шура?

— Так, я Шура.

— Я адразу зразумела... Ты вельмі напалохала маці. Прыйшла, кажа, нейкая незнаёмая дзяўчына, усё навокал аглядвалася.

Лена ўсміхнулася:

— Твая маці, напэўна, жанчына напалоханая.

— Так, яна ў мяне ўсё так цяжка перажывае.

Лена адразу ж перайшла да справы.

— Ты будзеш дзейнічаць са мной. Давай дамовімся аб сустрэчах.

— Што я павінна рабіць?

— Рэгулярна паведамляй аб руху нямецкіх эшалонаў, куды яны накіроўваюцца і што вязуць, лічы аўтамашыны і танкі.

Дайшлі да наступнага квартала. Завярнуўшы за вугал, Валя спынілася.

— Ведаеш, я наўрад ці буду табе карысная, — паспешліва сказала яна, — нам будзе цяжка сустракацца. Я ж працую ў дзве змены.

Лена вытрымала яе напружаны позірк.

— Тады давай сустракацца раніцай, да работы.

— Ах божачкі! Навошта ж табе старыя звесткі за мінулыя суткі?

Лена бачыла, як яна хвалюецца. Ёй, напэўна, хацелася толькі аднаго: каб яе пакінулі ў спакоі. Распіска ў разведаддзеле, некалі дадзеныя ёю абавязацельствы здаваліся ёй цяпер нечым нерэальным, што засталося ў тым, ужо далёкім для яе жыцці, у вяртанне якога яна не верыла.

— Пачакай, заўта ж субота? Колькі ў цябе змен? — цвёрда спытала Лена.

— Па суботах... адна! Але, прабач, я спяшаюся!..

— Вось і цудоўна, — у Лене закіпела злосць у адказ. — Роўна ў шэсць вечара чакаю цябе каля ўваходу ў Аляксандраўскі сад. І не спазняйся!

На другі дзень без пяці шэсць падышла яна да ўваходу ў сад. Вялікая афіша паведамляла, што ў кіно „Акса“ дэманструецца фільм „Шчасце перш за ўсё“, а ў кіно „Норд“ — баявік „Розы ў Цірaспалі“.

Валя не прыйшла, і Лена яшчэ раз зразумела, што з трэцім удзельнікам групы ім з Надзяй не пашанцавала. Трэба самой уладкоўвацца на работу. Але не на любую, а на такую, якая дала б магчымасць трапіць у порт.

### РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ
### Порт

Лена прыйшла да Дэрыбасаўскай, спусцілася пад віадук і праз некалькі хвілін ужо стаяла перад шырокімі жалезнымі варотамі порта, якія ахоўвалі два ўзброеныя румынскія маракі. Адзін з іх, шалёна жэстыкулюючы, спрабаваў нешта растлумачыць шафёру грузавой машыны, якая спынілася ў варотах. Другі ж стаяў убаку, пасмейваўся і яўна з асалодай назіраў за гэтай сцэнкай.

Шафёр, нарэшце, справіўся з непаладкай у маторы, і машына, абдаўшы Лену смярдзючымі выхлапнымі газамі, знікла за паваротам. Пакуль вартавы нетаропка зачыняў вароты, Лена паспела разгледзець у глыбіні порта штабялі скрынь і бочак, а за імі — прыкрытыя брызентам новенькія гарматы. Так, многае можна было ўбачыць і зразумець, калі трапіць сюды, няхай нават прыбіральшчыцай...

Ці доўга яна будзе гэтак стаяць? „Смялей, Ленка, смялей“, — падбадзёрыла яна сама сябе і, сышоўшы з тратуара, накіравалася да брамы побач з варотамі, куды, як яна бачыла, уваходзілі партавікі. Вартавы, які толькі што спрачаўся з шафёрам, закрыў ёй дарогу, але Лена так спакойна і ўпэўнена растлумачыла, што паступіла на работу і ідзе па пропуск, што ён міжволі адступіў убок.

У аддзеле прыёму на работу яе чакала расчараванне. Дабрадушны таўсцяк у белым пінжаку ветліва растлумачыў, што зараз у рабочай сіле порт не мае патрэбы.

Засмучаная, яна выйшла ў калідор і спынілася, раздумваючы, як быць далей. У канцы калідора, каля ўваходных дзвярэй, стаяў невысокі хударлявы і немалады чалавек у марской форме. Ён паволі курыў, напэўна, нечага чакаючы. Па меры таго, як Лена да яго набліжалася, ён усё больш уважліва разглядаў яе старую паркалёвую сукенку, стаптаныя туфлі. У гэтай тоненькай бялявай дзяўчыне, якая з годнасцю крочыла па доўгім паўцёмным калідоры, нешта, напэўна, прыцягнула яго ўвагу. Калі яна параўнялася з ім, ён раптам спытаў:

— Наймацца прыходзіла?

— Так, — уздыхнула Лена.

— Ну і як, у капітаны не бяруць?

— Нават у прыбіральшчыцы...

*(Працяг будзе)*

# ТРЫБУНА чытачоў

## Пасля з'езду

Ведаю, што аб з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы", які адбыўся 9 лютага 1978 года, будуць пісаць журналісты. Аднак і я хачу падзяліцца з мілымі чытачамі сваімі рэфлексіямі адносна гэтай падзеі. За тое, што сход быў добра падрыхтаваны, хваліць нікога не буду, бо як жа можа быць інакш у такім асяроддзі? Мая тэма сёння: выступленні на з'ездзе саміх удзельнікаў. Вось, напрыклад, Э. Вайсковіч. Паказаў, асабліва маладым карэспандэнтам, як пісаць крытычныя заўвагі і адначасова з'ядноўваць сабе сімпатыю тых жа людзей, якіх яны датычаць. Гэта вымагае вялікага такту ў жыцці з людзьмі, якіх не заўсёды выпадае хваліць. Вядома, крытыкі ніхто не любіць. Добра, аднак, калі яе ўспрымаюць аб'ектыўна і прызнаюцца да выказаных недахопаў. Гэта па-чалавечы. Горш, калі людзі за сапраўдныя факты, апублікаваныя ў „Ніве", крыўдзяцца. Такая пастава сведчыць толькі аб нізкім культурным узроўні крытыкаванага.

Наступным дыскутантам быў Ул. Сідарук. Гэта карэспандэнт, які заўсёды наперадзе. Аднак у сваім выступленні спрабаваў шукаць іншых крытэрыяў для ацэнкі карэспандэнта, чым толькі колькасць апублікаваных інфармацый. Гэта сведчыць аб чалавеку, які не задавальняецца тым, што рабіў і робіць, а прабуе новага, нягледзячы на тое, што колькасцю хтосьці можа яго перавысіць. Трэці, аб кім хачу сказаць пару сардэчных слоў, гэта Віт. Яго нараканне на дакучлівых людзей не было пазбаўлена праўды. Бываюць жа людзі, якія па трупах пхаюцца на вышэйшы ўзровень іерархічнай лесвіцы і не любяць, каб хтосьці ім у гэтым перашкаджаў. Віт сам сказаў, што за напісанне і ўвогуле за ўсё, што робіць, бярэ на сябе адказнасць. Я асабіста вельмі ўдзячны яму за грамадскую паставу. Мне ён па душы. Трэба толькі, каб не знеахвоціўся і выцягваў надалей усе адмоўныя з'явы нашага жыцця.

**В. Петручук**

## ПАРНАСІК

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ЗАМЕСТ СЛОВА Ў ДЫСКУСІІ НА З'ЕЗДЗЕ КАРЭСПАНДЭНТАЎ „НІВЫ"

*Усяму наперакор*
*Я аб вас, сябры-селькор.*
*Ці вы рады, ці не рады,*
*Выкажу свае пагляды.*
*Мо пагляды й клапа вартьі,*
*Як каму. Хто любіць жарты —*
*Дасканалы. А хто не —*
*То вінюсь, даруйце мне.*
*Ў канкурсоваму змаганні,*
*Леташнім годзе пісанні,*
*Што стараліс не ўсе шчэра*
*Сцвердзіць й Валкавыцка Вера —*
*Наш інструктар й рэагатар,*
*Ў пераплёты ўзяць аматар,*
*(Факт, сур'ёзна, но за дзела).*
*З свайго боку скажу смела,*
*Што калегі Я-ша й Лор*
*Узор флегматыкаў-селькор,*
*Што Крыніца памяльчэла,*
*Бы на мелі Сядзем села,*
*Вірскі слаба штосьць віруе,*
*К-ус, Янтар яму ўтаруе,*
*А таксама наша Кветка*
*Расцвітае ў „Ніве" рэдка.*
*Аднак большасць, скажу смела,*
*Піша шчэра і ўмела.*
*А. Закройшчык і А. Джэны*
*Матэр'ял даюць нядрэнны.*
*З А.З. варта браць прыклад,*
*А Сідарук піша шмат,*
*Абгрунтована і стала.*
*Піша Кірызюк нямала,*
*І пахвалы варты Байка —*
*Белавежы ўсёй ўсёзнайка,*
*І Петручук не спяшае,*
*Но на якасць уважае,*
*А калега Бандарук*
*Размахнуўся з абех рук.*
*Не павінна быць навінай —*
*Ўскалыхнулася й Дубіна.*
*Вайсковічу не паддацца —*
*Бурай-Бура стаў старацца.*
*Каб датрымаць гэтым двум,*
*Кропіць-шпарыць Кара-кум.*
*Не абы-што, не абы-як*
*Піша, аж рыпіць Ніяк.*
*Панфілюк? Не здзівіць вас,*
*Што шрайбуе ў поўны газ.*
*Як прыкладны беларус,*
*Йдзе ўпярод таранам Ус.*
*Без ўстрымання нінатроха*
*Піша, аж скрыпіць, Няплоха.*
*Не дарма, но мне здаецца,*
*Гай яму не паддаецца,*
*Як ніхто з калег заўзяўся,*
*Як мурашка Віт старайся,*
*А Лук'янюк, каб быць першым,*
*Лупіць прозай, кропіць вершам,*
*Не зважаючы на тэму*
*Ў „Ніву" строчыць, бы з каэму.*
*Ў адну мэту-запавету*
*Год пісалі, й зіму, й лета*
*На зухвал,на ўзавады —*
*Аж трасліся ў іх зады.*
*Я ж натуры маю ваду —*
*Адставаць заўсёды ззаду,*
*Тым ў апошніх й гэты раз,*
*Сорам, сорам...*

**Дзядзька Квас.**

## Кожны чытач —карэспандэнт „Нівы"

**(З выступлення на з'ездзе)**

Атрымаў я запрашэнне на пяты з'езд карэспандэнтаў „Нівы". Запрасілі мяне ўжо трэці раз. З гэтага я дужа рады і лічу гэта сваім асабістым невялічкім юбілеем.

Ну што ж, трэці год, як я стаў карэспандэнтам „Нівы". Першая мая публікацыя паявілася ў „Ніве" ад 13 красавіка 1975 года, а ўсіх публікацый у тым годзе было 6. За 1976 год я напісаў 13 публікацый, а за 1977 год — 12.

Вы скажаце, што замала і праўда — мала. Хачу прызнацца, што з мяне вялікі гультай да пісання. Пакуль вазьмуся што-небудзь напісаць, дык і месяц пракоціцца, а ўжо як пашлю які-небудзь артыкулік, то чакаю, пакуль паявіцца ў „Ніве", і гэтак не раз праходзіць цэлы месяц. Я прапанаваў бы, каб вы знайшлі месца ў „Ніве", як, напрыклад, у рубрыцы „Наша пошта" і там кожнаму, хто прышле артыкул, не здатны да публікацыі, напісалі: не будзем друкаваць, тады браўся б што другое пісаць.

Яшчэ прапаную, каб час ад часу паявіўся ў „Ніве" такі заклік: „Кожны чытач — карэспандэнт „Нівы"!" Няхай усе пішуць смела пра сваю і чужую долю і нядолю.

**Ніяк**

## АДГАЛОСКІ

## У чым прычына?

У 5 (1144) нумары „Нівы" з 29 студзеня быў надрукаваны артыкул (вл) „Заціраецца след мінулага". Чытаючы яго, трэба з сумам прызнацца, што даўнейшы звычай навагодняга і каляднага абраду зусім ужо занікае. Магчыма, праз некалькі гадоў не ўбачым ужо ў нашых вёсках ніводнага калядніка, ніводнага пераадзяванца. Традыцыйнае свята каляд стане ў нас звычайным днём большай выпіўкі.

У чым прычына такіх хуткіх перамен? Чаму ніхто не прабуе ратаваць цудоўных традыцый каляд, гагатухі, вялікага вечара?

Аўтар артыкула піша, што гэта ўсё таму, што свет стаў зматарызаваны і нікому не хочацца хадзіць. А мне здаецца, што ў сучасным свеце сталі мы надта багатымі. Зараз у нас нават дзеці саромяцца ісці калядаваць, не гаворачы ўжо пра моладзь. Кажуць, гэта „жабранне грошай". І бацькі не пускаюць. Лепш дадуць адну „чырвоную" на свята дзіцяці і яно шпарыць у краму за ласункамі. А моладзь? Вось пакажу на прыкладзе, як гуляла яна ў Чаромсе на першы дзень Каляд — 7 студзеня.

У „Калеяжу" баль. Гармонік уступіў месца арганам і электрычным гітарам. Усе гуляюць па-сучаснаму. На вуліцы таксама пачалі „гуляць па-сучаснаму". Некалькі кавалераў (такіх метр з шапкаю) са свістам шпарыць за нейкім хлапчуком. Я не бегаў за імі. Толькі на другі дзень казалі, што на вуліцы 1 Мая ляжалі паламаныя платы. Так гуляла моладзь у святы. І гэтак амаль з нагоды кожнага свята. А мы глядзім на гэта і сумна ўздыхаем: „Калісьці мы лепш праводзілі свята..."

**Ул. Сідарук**

## Ёсць малочная

Доўгі час жыхары Бельска, вучні пачатковых і сярэдніх школ, што даязджаюць у Бельск з навакольных сёл, не мелі дзе танна паесці. На выручку прыйшло прадпрыемства „Сполэм" ВСС у Бельску. З памяшканняў старой каварні „Эва" і магазіна „Эльдом" зрабілі малочную сталовую. Вельмі ўдала і прыемна выглядае новая малочная сталовая ў Бельску. Сцены залы выкладаны дэкаратыўнымі пліткамі і прыгожа памаляваны. Гэтая сталовая можа быць узорам.

Рамонт памяшканняў праводзіла будаўнічая брыгада, якая існуе пры ВСС „Сполэм" у Бельску. Найбольшы ўклад працы пры гэтым далі Юры Шпакоўскі, Мікалай Крышпінюк, Мікалай Місюк, Мікалай Коршак, Антон Шульц.

**Іван Кірызюк**

## Завеяла—замяло

Вуліцу ў Тафілаўцах так завеяла снегам, што выглядае, як у казцы. Асабліва ў двух месцах: на адрэзку паміж сялом і так званым Сёлкам і ў самым Сёлку. Туды ні трактар, ні самаход не даедзе. А што будзе, калі спатрэбіцца хуткая дапамога некаму?

І цікава, што Тафілаўцы не спяшаюцца працерці ў вёсцы такія сугробы. Ці ж лепш ехаць фурманкамі па-за клунямі? Што дзіўнае, не першы тут такі выпадак.

**М. Панфілюк**

## Андрэй Краўчынскі —зубны лекар

Ужо паўгода, як у Дубічах Царкоўных працуе зубны лекар. З'яўляецца ім Андрэй Краўчынскі. Гэта вельмі добры спецыяліст, у чым пераканаліся многія, каму ён лячыў зубы.

Не станем гаварыць, якое значэнне для вёскі мае зубны лекар. Усе гэта ведаюць.

Наш лекар прыехаў да нас з далёкага Гданьска. У нас, сярод беларусаў, яму спадабалася найлепш. Сам тэта гаворыць. Працуе кожны дзень у сваім кабінеце па восем гадзін і больш. Лечыць зубы, накладае каронкі, ставіць пратэзы. Усё робіць хутка і спраўна, у чым дапамагае яму яго жонка Аня, а таксама асістэнтка Н. Несцярук.

Прыемна адзначыць і тое, што наш лекар А. Краўчынскі хутка навучыўся нашай беларускай мове і „Ніву" выпісаў на цэлы 1978 год. Таму мы яшчэ больш цэнім гэтага ветлівага, добрага і культурнага доктара.

**М. Панфілюк**

**З ЛІСТАЎ У РЭДАКЦЫЮ**

## І пра нас не забывайце!

Ветліва прашу рэдакцыю пасадзейнічаць, каб я мог за паштовым залічэннем атрымаць кніжку „Ішоў дваццаты год", якую напісаў Міхась Машара, старонак 352, цана 10 зл. 20 гр. У мяне ёсць другая кніжка гэтага самага аўтара „Лукішкі" і многа рускіх і беларускіх кніжак і спеўнікаў. Я збіраю такія выданні.

„Ніву" выпісваю ўжо больш як 5 гадоў, бо люблю розныя цікавыя яе артыкулы, яе гумар і песні. Толькі прызнаюся, крыху карціць сказаць вам, што ў „Ніве" вы не пішаце пра нашу вёску Кумяла і пра гміну Карыцін.

„Ніву" і „Зорку" я чытаю ўголас і навылет ад пачатку да канца. Мая старая любіць слухаць, а найбольш „Сардэчныя тайны", а ўнукі — „Зорку".

Калі можаце, прашу ветліва, надрукуйце ў „Ніўцы" песеньку аб тым, як сусед граў суседцы на кларнеце і трубе. Песенька гэтая вельмі мне спадабалася, яе я чуў нядаўна па-руску па радыё. І яшчэ адну песню прашу „Хто слышал про Мурку города Одесы".

Напісаў бы чалавек у „Ніву" часцей, але не ўмею папраўна пісаць па-беларуску, хоць і з беларускай сям'і і мова ў нас беларуская.

Шлю ад сэрца прывет і жду ад вас атвета, як салавей лета.

**Мечыслаў Луцкевіч**

**Ад рэдакцыі.** Адносна кніжкі — даўно ўжо яе няма ў Беластоцкай міжнароднай кнігарні. Адносна песень — калі ўдасца здабыць — дамо. Адносна пісання ў „Ніву" — пішыце, як умееце.

### БЕЛЬСКІ ЗБОВІД

У Бельску адбыўся справаздачна-выбарны сход гарадской арганізацыі ЗБоВіД. З гэтай нагоды хачу сказаць некалькі слоў аб гэтай арганізацыі. Бельская гарадская арганізацыя ЗБоВіД вялікая. Налічвае 296 членаў — самаахвярных і баявых змагароў, якія прымалі ўдзел у барацьбе супраць фашызму на ўсіх франтах другой сусветнай вайны, а таксама тых, якія ўстанаўлівалі народную ўладу пасля вайны.

Ад 1971 года бельская арганізацыя аддзялілася ад даўнейшай павятовай і цяпер дзейнічае самастойна. Гмінная арганізацыя ЗБоВіД налічвае 320 асоб.

Ужо трэці раз старшынёй гарадской арганізацыі ЗБоВіД быў выбраны Рыгор Амільянюк — капітан рэзервы, салдат Чырвонай Арміі, а потым салдат II Арміі Войска Польскага. **М. Матвеюк**

### ГМІНА ЯНАЎ

Гміна Янаў каля Саколкі з'яўляецца адной з перадавых у нашым ваяводстве ў галіне гадоўлі хатняй жывёлы. Выступае там вельмі пазітыўная з'ява: сяляне аддаюць мала зямлі дзяржаве за пенсію. Пасля старых бацькоў прымаюць зямлю іх маладыя спадчыннікі, якія будуюць прыгожыя мураваныя аборы. У многім варта з гміны Янаў браць прыклад.

**М. Лук'янюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Уадказ на нашу крытыку**

**Да артыкула „БАХУРЫ", „Ніва" № 48/1135 ад 27 лістапада 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W MICHAŁOWIE.**

Odpowiadając na artykuł zamieszczony w Waszym Tygodniku pod tytułem „Bachury" — uprzejmie informuję, iż w sprawie dotyczącej budowy remizy strażackiej podjęliśmy następujące przedsięwzięcia:

1. zleciliśmy opracowanie dokumentacji budowlanej;
2. zapewniliśmy wykonawstwo budowlane oraz instalacji elektrycznej;
3. zgromadziliśmy materiały takie, jak: wapno, żwir, lepik, papa, blacha, rynny, płytki podłogowe, kafle, deski;
4. zagwarantowaliśmy nadzór budowlany.

Ze względu na niewielkie zaangażowanie mieszkańców Bachur (jedynie rozpoczęli w czynie społecznym) w kontynuowaniu budowy, zmuszeni jesteśmy zapewnić wykonawstwo we własnym zakresie.

Analizując aktualny stan zaawansowania prac wykończeniowych stwierdzam, iż remiza strażacka w Bachurach zostanie oddana do użytku w roku bieżącym.

**Naczelnik Gminy**
**inż. Zenon Bezubik**

**Да публікацыі „ЦІ Ў СНЕ ПРЫСНІЛАСЯ?", „Ніва" № 4/1143 ад 22 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W KRYNKACH.**

W odpowiedzi na notatkę prasową z 4/1143 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 22.01.1978 r. Gminna Spółdzielnia „Samopomoc Chłopska" w Krynkach informuje:

Przyjmowanie wpłat i wypłat prowadzi Bank Spółdzielczy, z którego usług korzysta GS. Bank Spółdzielczy w Szudziałowie posiadał swój punkt kasowy w Babikach, lecz został on zlikwidowany, na co GS nie miał żadnego wpływu. Aby umożliwić zakup towarów z magazynu w Babikach, Bank Spółdzielczy w Szudziałowie zawarł umowę z referentką sprzedaży GS, która pobiera opłatę za sprzedane towary na miejscu a następnie odprowadza gotówkę do Banku Spółdzielczego, za co otrzymuje dodatkowe wynagrodzenie. W okresie od 10 do 30 grudnia referentka była na urlopie i zastępowała ją w tym czasie inna pracownica, z którą Bank Spółdzielczy nie zawarł umowy. Dlatego też w tym okresie rolnicy opłatę za towar musieli uiszczać w Banku Spółdzielczym w Szudziałowie.

W obecnej chwili rolnicy kupujący towary w magazynie w Babikach opłatę wnoszą na miejscu u referenta sprzedaży GS.

**Prezes Zarządu**
**Tadeusz Fajst**

**Да заметкі „КАБ РАТАВАЦЬ, ТРЭБА МЕЦЬ ЧЫМ", „Ніва" № 5/1144 ад 29 студзеня 1978 года.**

**Адказвае: NACZELNIK GMINY W SZUDZIAŁOWIE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w Waszym tygodniku z dnia 29 stycznia br. dotyczącą budowy zbiornika przeciwpożarowego we wsi Słoja (gmina Szudziałowo) — informuję, że:

Budowa zbiornika została ujęta w planie ochrony przeciwpożarowej gminy Szudziałowo na lata 1977—1980, zatwierdzonym na Sesji GRN w dniu 25 września 1977 roku. Budowa zbiornika możliwa będzie tylko w czynie społecznym przy udziale mieszkańców wsi. Urząd Gminy udzieli pomocy finansowej na materiały budowlane.

Na całość budowy nie może udzielić pomocy finansowej z tego względu, że w bieżącym roku będzie rozpoczęta budowa strażnicy gminnej w Szudziałowie.

**Naczelnik Gminy**
**Czesław Bietkał**

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36011/36671.

# ТАЙНА

Сёння ў маім доме незвычайны дзень. Можна сказаць, гістарычны. Аб гэтым я намякнуў жонцы яшчэ надвячоркам:

— Заўтра цябе чакае нештачка дужа прыемнае...

Заінтрыгаваная жонка ўсю ноч не спала, варочалася і яе ўздыхі перашкаджалі мне спаць, але, мабыць, упершыню я стрываў, не ўсчаў сваркі — каб не прагаварыцца, не выдаць сваёй тайны.

А з'явілася гэта тайна гадоў мо з пяць назад. Тады, памятаю, таксама быў Міжнародны жаночы дзень. Адзначылі яго так, што сябры мусілі прывезці мяне на машыне. Але лепш бы яны гэтага не рабілі, лепш пакінулі б мяне пад адкрытым зоркавым небам: які грандыёзны скандал жонка ўчыніла! Бр-р-р... Закідала дакорамі, бы гэтымі... слезатачывымі гранатамі. А ўсё ад таго, што забыў ёй купіць падарунак. Не аказаў адпаведнай увагі. Памятаю, яна плача, і я ледзь не плачу. Ад жалю.

— Я табе заўтра ж куплю падарунак, — слёзна абяцаю жонцы. — Хочаш, панчошкі, хочаш — духі...

А жонка — ні ў якую! Ніякай пабла́жкі мужу, ніякага спачування. А можа, я гэты... як яго? Скляроцік. Таму і забываю пра падарункі, што хворы. Карацей, была ў мяне ночка бяссонная. Разважаў, шукаў выйсце з крытычнага становішча. І знайшоў, цудоўнае выйсце прыдумаў! Галава трашчыць з учарашняга, а я — песні пяю... Цяпер — кропка, цяпер па святах мяне ўжо не будзе мучыць сумленне, калі з пустымі рукамі да жонкі прыйду, без падарункаў. Усе гэтыя сувеніры я куплю і ўручу жоначцы адразу за некалькі гадоў... Хай цешыцца! Гэтак жа і мне спакайней — не трэба кожнае свята па магазінах швэндаць, у чэргах штурхацца, і ёй выгода: атрымае не адзін там малюсенькі флакон духоў, а... Між іншым, сама ўбачыць. Убачыць і зразумее, перакана́ецца нарэшце, які я шчодры і ўважлівы. Больш не пасмее дакараць.

Так я сабе тады рашыў, але жонцы, безумоўна, нічога не сказаў. І ўсе пяць гадочкаў — ні гу-гу, ні словам не прагаварыўся, бярог сваю тайну.

І вось сёння, уяўляеце, рассакрэціўся! Сёння ў маім доме незвычайны дзень. Можна сказаць, гістарычны. Паклікаў суседак, жонку, дзяцей, выходжу страявым крокам на сярэдзіну пакоя, у руках — мяшэчак з падарункамі... Усе, вядома, сочаць за мной, чакаюць, хвалююцца: чым агарошу? А я гэтак знешне спакойна, нават абыякава вытрасаю на стол падарункі з мяшэчка і кажу:

— Дарагая, тут — усё... за ўсе пяць гадоў... Віншую! Бяры і ведай, які я ёсць чалавек! За мной — ніколі не прападзе.

А на стале — флакончыкі духоў, панчошкі, набор розных шчотак, люстэрка кішэннае... На кожнае свята што-небудзь! За ўсе пяць гадоў! Я — не скнара.

Бачу, жонка ад нечаканасці слова вымавіць не можа. Пачырванела, слёзы выцірае, каб не заўважылі: побач суседкі стаяць.

— А вашы як... наконт падарункаў? — пытаюся ў суседак.
— Дораць? Калі не — не дакарайце іх. Можа, і яны ашчаслівяць вас калі-небудзь... як я!

Суседкі сумна ўздыхаюць. Зайздросцяць маёй жонцы!

**Я. Іваноў**



**...Лічыла сябе маладою: усе гаварылі, што ў яе дзявочая памяць.**

# НІЎКА



### ДАВЕДАЎСЯ

Муж-жонцы:

— Здзіўляюся, чаму жанчыны звяртаюць больш увагі на свой вонкавы выгляд, чым на развіццё свайго інтэлекту?

— Таму, што мужчыны бываюць дурныя, але вельмі рэдка — сляпыя.

### КЛУБОК-ЖАНІШОК

*Сустрэў Іголачку Клубок,*
*Да вушка к ёй фарсіста — скок:*
*„Ой ты, красуня, мая фея,*
*Ой, не магу жыць без цябе я —*
*Дай звяжам ніткай наш лёс“, —*
*Так кляўся ветрагон да слёз.*
*А толькі з ёю ажаніўся —*
*І ўбок*
*Адразу — скок!*
*Да новае іголкі пакаціўся...*

**Алесь Кузняцоў**



*— Вытлумачце мне, калі ласка, што робіць тут гэты слуп а другой гадзіне ночы?*

## ГУМАР З

### ЯНА НЕ З ТЫХ

— Колькі вам гадоў, Марыся? — спыталі нейк дзяўчыну.

— Васемнаццаць.

— Але ж два гады таму вы гаварылі тое самае.

— Я не з тых, што сёння кажуць адно, а заўтра другое.



*— Выбачайце, гэта не з вашага акенца ўпала кветачка?*

### НА ДОБРУЮ ПАМЯЦЬ

— Маня, гэта праўда, што цябе муж пакінуў?

— Праўда.

— Тады я не разумею, чаму ты такая вясёлая?

— Што ж тут разумець. За пяць гадоў нашага супольнага жыцця ён гэтым самым зрабіў мне найбольшую прыемнасць.

### АД ГРАХУ ЯК НАЙДАЛЕЙ

Жонка карчмара дакарае мужа:

— Чаму ты сёння, у дзень майго свята, не зарэзаў во тую курку, як я табе казала, а ўзяў нейкую задрыпаную?

— Не пасмеў, — уздыхнуў муж.

— Гэта як не пасмеў?

— За ёю певень старшыні Аглаблёвіча ходзіць.

### ВІНАВАТЫ

На судзе разбіралася прычына сваркі. Суддзя пытае дырэктаршу Задрыпанюк:

— Раскажыце, як здарылася сутыкненне.

— Я кіравала аўтамабілем. За рулём сядзеў муж...

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Маладажоны выходзяць з мэрыі пасля шлюбу, маладая жонка вызваляецца з абдымкаў мужа, дастае з сумачкі паперку, закрэслівае алоўкам першы радок і гаворыць:

— Пачакай хвілiначку, зараз я пагляджу, што ў мяне там яшчэ запланавана на сёння.

✲

—Сцверджанне, што шведскія мужчыны — дрэнныя джэнтльмены, не адпавядае рэчаіснасці. Сёння, напрыклад, я бачыў сваімі вачыма, як адзін швед прыкрываў сваім парасонам ад дажджу даму, пакуль яна мяняла кола ў аўтамашыны.

✲

Над адным з уваходаў у рай вісіць надпіс: „Для мужаў, якія ўсё жыццё былі пад абцасам у сваіх жон“. Ля гэтага ўваходу выстраілася велізарная чарга.

Над другім уваходам надпіс: „Для мужаў, якія ніколі не былі пад абцасам сваіх жон“. Тут стаіць адзін нясмелы мужчына. Да яго падыходзіць апостал Пётр і пытае:

— Чаму тут стаіш?

— Не ведаю, — пакорна адказвае той. — Жонка загадала тут стаяць.

✲

Дама ў гадах гаворыць:

— Калі я была дзяўчынкай, я трапіла ў вулічны выпадак — мяне збіў аўтобус.

— Я думаю, гэта быў дыліжанс, — шапнула суседцы адна з прысутных.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Піванюк з Ціванюкоў змяшчаем песню*

## KTO DOGONI WIATR

**Słowa: Jerzy Czuraj**
**Muzyka: Krzysztof Sadowski**

Szczęście nie da się dogonić nam,
nie da się dogonić czas,
wszystko mamy, wszystko, tylko to,
to drwi sobie z nas.
Ucieka nam w świat i nie dogoni go już nikt,
ono jest zaklęte w wiatr,
tak drwi sobie z nas, z nas sobie drwi.
I w sto koni nie dogonisz go,
nie, nie, nie masz szans.

Niechaj goni, kto dogoni,
kto nadzieję ma,
niechaj goni, kto w nadziei trwa,
setce koni pod kopyta niechaj rzuca świat,
niechaj goni, kto dogoni wiatr.

Radość śpiewa w polnych ptakach,
śpiewa też na polach, w mgłach,
lecz jak zostać polnym ptakiem
lub dogonić choć raz wiatr.
Ucieka nam czas i nie dogoni go już nikt,
zaklęty on jest w wiatr,
tak drwi sobie z nas, z nas sobie drwi.
I w sto koni nie dogonisz go,
nie, nie, nie masz szans.

Niechaj goni, kto dogoni...



*Першыя прыкметы вясны.*

### АБХІТРЫЛА

Прыйшла Кастусіха і кажа мужу:

— Ці можаш сабе ўявіць, якія непарадкі ў нашай краме: да пары капронавых панчох як нагрузку кофту накінулі.

— Што непарадкі, то непарадкі. Ды табе яшчэ нічога! А во мне на няшчасны кілаграм селядцоў цэлую паўлітроўку ўперлі.

# КУРЬЁЗЫ

### КЛУБЫ ДЛЯ АДЗІНОКІХ ЖАНЧЫН

У многіх краінах даўно існуюць усемагчымыя клубы, дзе збіраюцца людзі прыемна бавіць час, адпачыць. Там гуляюць у більярд, карты, ствараюць гурткі па інтарэсах. Наведвальнікаў абслугоўваюць ветлівыя гейшы. А вось у Японіі сталі распаўсюджвацца так званыя клубы для адзінокіх жанчын. У адрозненне ад іншых клубаў у гэтых гейшамі з'яўляюцца... мужчыны. Яны зарабляюць вялікія грошы — да 7 тысяч долараў у месяц. Так пад шыльдай клуба адпачынку прыхаваны самы звычайны публічны дом для жанчын.

### САБАЧАЯ СПРАВА

Узнікла гэтая ўнікальная справа вельмі проста. Аднойчы паважаная пані Гахр выйшла на прагулку са сваёй любімай сучкай Ку-Чыа. Гэтая чыстапародная прыгажуня раптам уздумала завесці знаёмасць са звычайным суседскім пудзелем, які нечакана выскачыў аднекуль з падваротні. Пані Гахр спынілася ў роспачы: шчанюк з пароды Чао-чао каштуе аж 1.500 марак, а тут...

Абражаная ў лепшых сваіх пачуццях, пані Гахр падала ў суд на гаспадара дзёрзкага сучкінага „жаніха“ і, каб звесці рахункі, патрабавала заплаціць ёй 6.000 марак. Два гады запар заходнеберлінскі суд займаўся складанай сабачай справай. І нядаўна ўсё ж заняў бок беспароднага пудзеля, бо што зробіш з гэтай несвядомай істотай, ці ж вінаваты тут гаспадар?

## МІЖ НАМІ

**Знайшоў сваё месца ў жыцці — знайдзі жонцы.**